
Марыя Панасэвіч-Дубіцкая → 3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714


Васіль Шымчук → 5

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 52 (3320) Год LXIV | Беласток, 29 снежня 2019 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)



Фота Ганны Кандрацюк

# «Дэбют» XXII — высокі ўзровень

Міра ЛУКША

**Чарговы выпуск Конкурсу беларускай паэзіі і прозы «Дэбют» абвешчаны быў яшчэ з вясны ў «Ніве». На працягу конкурсу (пачаўся ў 1996 годзе) прыняла ў ім удзел амаль тысяча аматараў прыгожага пісьменства. У рэдакцыі «Нівы», арганізатара конкурсу, засакрэчаныя тэксты аўтараў чакаюць да апошняга дня кастрычніка. Як штогод на падвядзенне конкурсу ў Беластоку (22 снежня) з'ехаліся не толькі самі аўтары, але таксама іхнія бацькі, дзеці, мужы ці жонкі, настаўнікі, сябры і нават суседзі. Часам прыязджае цэлы фан-клуб — як пераможцы конкурсу ў дарослай катэгорыі Дар'юша Жукоўскага з падваршаўскага Велішэва, лесніка па адукацыі, аматара жывапісу, якога можна назваць чалавекам рэнесансу — на завяршэнне «Дэбюту» дабралася вялікая група з Таварыства сяброў Гарадоцкай зямлі, адкуль ён родам. Усе сябры пасля конкурсу гуртам чыталі навагодні нумар «Нівы», асабліва «Справядлівы гараскоп», ацаніўшы, што мінулагодні спраўдзіўся кропка ў кропку ў жыцці. І быццам бы прадбачвалася ўжо тады чарговая перамога іх сябра, які творча працаваў увесь год, пісаўшы, маляваўшы і падтрымліваючы культуру.**


Фота Ганны Кандрацюк

Удзел у чарговым выпуску «Дэбюту» прыняло 38 літаратараў-аматараў з усёй Польшчы, якія прыслалі ў «Ніву» 43 нізкі твораў, найбольш паэтычных (прынамсі па тры вершы). Першая група — вучні пачатковых школ прыслалі аж 21 канверт (сярод іх быў 1 дэбютант). Сярод удзельнікаў II групы — вучняў сярэдніх школ (адна вучаніца гайнаўскага белліцэя) і дарослых, разам былі 22 асобы (новых творцаў не было). Журы, у якім працавалі тры спецыялісты — старшыня, вядомая паэтэса з Бельска **Надзея Артымовіч**, паэт **Юры Плютовіч** з Беластока і літаратуразнаўца і пісьменнік з Гродна **Янка Трацяк**, аднагалосна сцвердзіла, што ўзровень конкурсу быў вельмі высокі і належным чынам ацаніла пераможцаў. У час урачыстага мерапрыемства 22 снежня 2019 года, куды былі запрошаны ўсе ўдзельнікі конкурсу і іх сябры, былі зачытаны самыя лепшыя творы. Маладыя і старэйшыя аўтары з вялікім хваляваннем прынялі ўзнагароды за свае творчыя поспехі з рук старшыні Беларускага саюза ў Польшчы Яўгена Вапы, не менш узрушанага падзеяй і сустрэчай з цікавымі, звычайнымі і незвычайнымі людзьмі. Рэдактар Яўген Вапа з радасцю паказаў першы зборнік, яшчэ цёплы, Веры Русіновіч (II месца), які выдала сёлета Бібліятэка ў Нарве пры падтрымцы Праграмнай рады тыднёвіка «Ніва» і прадбачыў, што варта будзе чакаць тома вершаў яшчэ аднаго таленавітага ўдзельніка «Дэбюту».

— Самы цяжкі шлях — працаваць у літаратуры, — не першы раз адзначыла старшыня журы **Надзея Артымовіч**. — Я паўтаруся. Гэта значыць настойлівая, самастойная праца, быццё ў культуры, і чытанне, чытанне, чытанне! Гэта паўтараю як мантру: чытаць! І думаць. Конкурс дае магчымасць сканцэнтраваць свае сілы, дае магчымасць канфрантацыі. Сам друк твораў у „Ніве" з'яўляецца вялікай узнагародай, наблітацыяй. Чакае вас праца, чытанне, праца над сваім беларускім словам. Бесперапынная, настойлівая, бывае што і пакутная праца. Беларуская лексіка, беларускае слова гэта крыніца. Чытайце беларускую літаратуру, тыднёвік «Ніва», слухайце Радыё Рацыя і беларускія праграмы на Радыё Беласток. Слухайце тых, што добра гавораць па-беларуску, іх жывое слова. Іншай дарогі няма як дайсці да беларускага слова. У «Ніве» будуць надру-

чытайце ☞ 10





# Тост
## за незалежнасць

Беларусы апошнім часам ужо звыкліся, што пад Новы год іх чакаюць з боку ўлад вельмі экстравагантныя сюрпрызы. І гэта можа быць што заўгодна. І чарговы скок долара, і так званая дэнамінацыя, і падвышэнне коштаў на што заўгодна, і ўсяго не пералічыш. Пад Новы год такія рэчы рабіць найзручней, бо Новы год для беларусаў ужо з даўніх часоў свята асаблівае, масавае, і нават усенароднае. А там і Каляды, і каталіцкія, і праваслаўныя Каляды, а там і Стары Новы год...

Людзі ў гэты перыяд занятыя закупкамі, пошукам падарункаў і іншымі прыватнымі справамі. Кожны намагаецца з апошніх сіл зрабіць прыемнае сваім блізкім і родным. Таму іншыя праблемы ўспрымаюцца неяк мімаходзь, не так глыбока як трэба, нават, калі гэта нейкая паглыбленая інтэграцыя...

Няма калі пра іх думаць, таму самы зручны час тыя рэчы і падкінуць у грамадства. А пасля свят ужо позна пратэставаць ці абурацца. Нічога ўжо не памяняеш. Як гаворыцца, цягнік пайшоў.

Праўда, такі перадсвяточны прыём выкарыстоўваюць не толькі ў нас. Паўсюдна, дзе хочуць прыкрыць свае не самыя празрыстыя і чыстыя справы, стараюцца выкарыстаць перадсвяточную мітусню, каб не даць людзям апамятацца. Нават у Амерыцы імпічмент прэзідэнту Трампу яго апаненты ў Кангрэсе абвясцілі перад святамі, у час усенароднай мітусні. Невыпадкова так зрабілі, хіба што. Дык гэта ў самой Амерыцы, краіне з самымі дэмакратычнымі традыцыямі і каштоўнасцямі. Што ўжо гаварыць пра тое, якія фінціклюшкі могуць выкінуць улады ў такіх краінах як сённяшняя Беларусь, або Расія. Асабліва, калі яны аб'яднаюцца дзеля якой патаемнай справы...

А яны і аб'ядналіся. Беларускія і расійскія ўлады ўзялі і аб'ядналіся. Сабраліся на самым высокім роўні і нешта падпісваюць у галіне нейкай там паглыбленай інтэграцыі... Першы раз нешта падпісвалі, так і незразумела што. Замала ім падалося таго, што нападпісвалі. Другі раз сустракаюцца, акурат перад святамі.

Цікава, што яшчэ глыбей у той інтэграцыі можна прыдумаць чым ёсць?! Аказваецца, пры жаданні, можна. І беларускай грамадскасці нічога іншага не прыходзіць у думкі, як тое, што рыхтуецца поўная здача незалежнасці... Іншых варыянтаў для паглыблення, нібыта, больш і няма. Дапаглыбляліся ўжо, маўляў, да самага дна.

З вуснаў улады, то, прагучалі супакаяльныя словы, што незалежнасць, нібыта, ніхто здаваць не збіраецца. Ні за грошы, ні, тым больш, за так. Адтуль заявілі, што незалежнасць — наша найвышэйшая каштоўнасць. Але як тады растлумачыць той факт, што на ўдзельнікаў масавай вулічнай акцыі ў абарону незалежнасці ўжо складзена мноства пратаколаў і пачаліся судовыя працэсы?! Як?!

Уявіце сабе, беларуская дзяржава праз свае дзяржаўныя інстытуты затрымлівае і карае сваіх грамадзян, якія пасмелі выступіць за незалежнасць гэтай дзяржавы. Ну ці знойдзеце вы на свеце хоць аднаго паляка, якога польская краіна пакарала за тое, што ён выступаў за незалежнасць Польшчы? Не важна, санкцыянавана, ці не, але за незалежнасць сваёй краіны! Ці знойдзеце хоць аднаго пакаранага за гэта рускага, немца, кітайца, малайца, эфіопа або марсіяніна? Ясна, што не, бо краіна не можа караць тых, хто за яе змагаецца! Краіна не можа караць тых, хто за яе выступае! Краіна толькі ўзнагароджвае такіх людзей!

А тут карае!

Гэта тое самае, што прама на полі бою арыштаваць свайго салдата і пацягнуць яго ў суд за тое, што ён ваюе за сваю краіну... Або партызана... Партызана то ўвогуле ніхто не ўпаўнаважваў за Радзіму біцца. Ён сам у лес пайшоў дзяржаву бараніць. Дазвол у выканкаме не браў. Дык што цяпер? Да адказнасці яго прыцягнуць?!

Вось і атрымліваецца, што заявы заявамі, а дзеянні дзеяннямі. І акурат на святы, калі большасць у мітусні топіцца. Няма часу не тое, што падумаць, але і даведацца пра тое, што там падпісваюць.

Але свята на тое і свята, асабліва навагодняе, калі людзі ў кожнае пажаданне, у кожнае віншаванне, і нават у кожны тост душу сваю ўкладваюць. Таму кожнаму беларусу, за святочным сталом, варта падняць хаця б адзін тост за Незалежнасць! Успомніць, што яна ў нас ёсць, што яна наша і што яна нам патрэбная!!!

Хаця б тост. Але ад кожнага. Кожнаму.

**Віктар САЗОНАЎ**



# Маё Мерцбаў

Святы — цудоўны час... замятання штодзённых клопатаў пад дыван. Гэта добра ці дрэнна? Не! Гэта я адкладваю на гэты час усе праблемы і нявырашаныя канфлікты, стараюся быць больш прыемным да сваіх суседзяў і бліжэйшым да сваіх блізкіх, чым звычайна. Напэўна, гэта добра... Але святы праходзяць і ўсё, што адкладзена, што ціха дрэмле пад дыванам, пачынае выліваць сваю цвілую актуальнасць — як звычайна. Тое вішчыць і папахвае ды патрабуе ўвагі. Напэўна, дрэнна, што столькі назапасілася за святочны перыяд? Дрэнна, калі я працягваю адкладаць рэчы, якія патрабуюць неадкладных рашэнняў. Я прапускаю асабістыя. Але ці менш асабістыя тыя, калі яны ўплываюць на ўсіх іншых? І яны тэрміновыя. У Польшчы гэта пытанне ідэалагічнай і палітычнай спрэчкі з нагоды Канстытуцыі. Як адрэагаваць на гэта? Канстытуцыя павінна ахоўваць кожнага з нас — чалавека і грамадзяніна, ці толькі абранага, напрыклад, каталіцкую большасць? Як я стаўлюся да гэтага? Я, цалкам усведамляючы, што сіла «палітычная», якая на самай справе не з'яўляецца «большасцю» большасці, але ж яна намінальная і кіруецца сілай сваёй улады, можа ўшчэнт спустошыць гэтую сферу свабоды, якую мне даюць, і ў якой яна знаходзіцца — і з цяжкасцю — у маім уласным і поўных метафізічных таямніц «Я»? Гэта грамадзянская праблема. Маё самаадчуванне менш ці больш эгаістычнае. Ці павінен я стаць бяздумным, падпарадкоўваючымся адвольнай уладзе, аўтаматам, які слухаецца яе, альбо аўтаномным, але салідарным, адказным за сябе і за яе суб'ектам? Ці павінна тады быць улада? У рэшце рэшт, вышэй — і, магчыма, толькі вышэй — узнікае праблема глабальнага пацяплення і агульная адказнасць за яго наступствы. У якой ступені я вінаваты ў тым, што сельскагаспадарчыя ўгоддзі пустынныя, што пітная вада вычэрпваецца, што смог жарэ мае лёгкія? Немагчыма жыць так, як мы жывем. Як я жыву. Я вінаваты, што я люблю спажываць — браць з жыцця столькі, колькі магу, не разлічваючы на наступствы маёй распусты? Гэта мая віна?

Я хаджу кожны дзень па лесе, па наднараўскіх лугах. Прызнаюся, што замест захаплення прыродай я збіраю смецце. Яно мяне раздражняе, адцягвае, прымушае мяне да сумоты... Гэта пластыкавыя бутэлькі, пакеты, бляшанкі з-пад піва і нават недакуркі ад цыгарэт. Я ненавіджу гэту чалавечую недарэчнасць ці, можа, відаву бяздумнасць. Пасля рыбаловаў я звычайна збіраю пустыя бутэлькі, пластыкавыя скрыначкі ад чарвячкоў, недакуркі; пасля грыбнікоў пластыкавыя пакеты і зноў бутэлькі. Я не скажу, што раблю гэта кожны дзень. Я складваю смецце ў выбраныя месцы. За некалькі гадоў яны назапасіліся ў кучы. Імі ніхто не цікавіцца, акрамя дзікоў і лісоў.

У гэты момант я ўспомніў вялікую працу мастака-дадаіста, які праславіўся сваімі мастацкімі зборкамі з розных, выпадковых матэрыялаў. Гэта былі струны, кавалачкі палачак, газеты і кардонныя абрэзкі, дробная дробязь — бляшкі, недакуркі, банкі ад кансерваванага мяса і пустыя бутэлькі. Ён назваў гэта «стварэннем новага свету са смецця». Яго завуць Курт Швітэрс. Свае асноўныя творы ён ствараў у 1919-1921 гадах. Даў ім спецыяльны загаловак: Merzbau. Гэта была абстрактная форма архітэктуры. Тры Мерцбаў былі створаны — цытую Вікіпедыю — адна ў Гановеры, другая ў Нарвегіі, трэцяя — недабудаваная — у Амблсайдзе на поўначы Англіі, што цалкам ілюструе ідэю мастака, каб спалучыць выраз скульптуры, архітэктуры і жывапісу. На практыцы гэта выглядала своеасабліва — гэта былі навалы чалавечых адходаў і цывілізацыйнага памёту, назапашаныя такім чынам, што ў двух выпадках трэба было прабіць столі студыі, разбурыць сцены і нават прабіць дах дома, каб скончыць працу. Сам мастак сцвярджаў, што ў фізічным і ідэалагічным сэнсе — Мерцбаў утрымлівае ўсё, што яму важна.

Вось сёння я пайшоў наведаць кучы смецця, якія я назапасіў за некалькі гадоў у выбраных месцах Прыроды. Здаецца, я ішоў туды з намерам адчуць мастацкі гонар за скончаны твор. А дзярмо! Мой асабісты Мерцбаў аказаўся жалюгодным. Гэта было проста смецце закочанае пад праславуты дыван. Прабачце мне.

**Міраслаў ГРЫКА**



Сваімі вачыма

# Калядны хаос

Сёлетні перадсвяточны перыяд як на далоні паказвае поўнае разыходжанне паміж светам рэальным і віртуальна-медыйным. З аднаго боку днём на дварэ маем тэмпературу пад плюс дзесяць і трава зелянее, быццам зараз мелі пасвіцца на ёй велікодныя баранчыкі і авечкі. А за грыбамі на калядны боршч то пэўна зараз будзем выпраўляцца ў лес самі, каб назбіраць іх свежых, а не купляць сушаныя летнюю парою. Можа маё пісанне ў гэтым месцы здавацца трызненнем, але клімат выраблае такія штукі, што ўсяго можна спадзявацца цягам бліжэйшых гадоў. Напрыклад, па гадах ацяплення можа да нас завітаць ледзяное паветра і нізкія тэмпературы, што не ёсць нічым дзівосным у гісторыі сённяшняй Еўропы. Мінімальныя змяненні васці абарачэння Зямлі вакол сваёй восі ў дачыненні да Сонца могуць таксама садзейнічаць непрадбачаным нікім кліматычным анамаліям. Вядома, цягам стагоддзяў за такімі зменамі ідуць розныя катастрофы ў біялагічным жыцці Зямлі ўключна з чалавечым родам. Пакуль усе аб'яўляюць змаганне за экалагічную энергію, але колькі трэба іншай энергіі і з чаго яе вырабіць? Для прыкладу, на нашым хмурным Падляшшы атрымаць яе з сонца і ветру і жыць толькі з яе — абсалютная ўтопія. І так ва ўсім свеце, поўным кліматычных супярэчнасцей, нельга адным распараджэннем зрабіць ураніловку для ўсіх. Тут ізноў відаць, што галоўную музыку заказваюць тыя, у каго грошы і палітычная сіла.

Але вяртаемся менавіта да віртуальнай, экалагічнай раўнавагі, якая цягам ужо звыш месяца выліваецца з рэкламных газетных анонсаў ды радыё- і тэлеролікаў. Тут з другога боку маем прыгожыя зімовыя краявіды, мароз, які сціскае надвор'е і цудоўна заснежаныя ёлачкі, што быццам сваім пахам запоўняць нашы кватэры проста з тэлевізійнага экрана. Пакуль яшчэ спецы па рэкламных штучках не прыдумалі, каб нам, апрача вобразу і голасу, прапанаваць пахі рэкламаваных прадуктаў. Калі гэта прыдумаюць, побытавая шызафрэнія перасячэ чарговы рубікон, а яе распрацоўшчыкі азалоцяцца прыбыткам у неўяўляльных размерах. У такім блаславёным зімовым краявідзе ўсе займаюцца толькі пакупкамі, перш за ўсё электронных прычындалаў, што зманліва прыцягваюць чалавека ў краіну сеціўнай самоты. А тоўстыя святыя Мікалаі прапануюць пераважна есці салодкія ласункі і піць напіткі, ад якіх чалавек сам хутка будзе як той святочны таўстун з белай барадой і чырвонай шапачкай на галаве. Таму нічога дзіўнага, што радзей дзеці здольны бачыць сапраўдных святых Мікалаяў, якія не завітваюць у іхнія хаты з той прычыны, што іхнія тоўстыя азадкі і жываты проста не ў змозе праціснуцца праз адтуліны звычайных комінаў. Па-мойму ёсць яшчэ адна прычына, што знікаюць сапраўдныя цацкі для нашых дзяцей. Проста колькасць усялякіх смартфонаў, айфонаў, айпадаў і таму падобных вынаходніцтваў, пра якія просіць большасць нашых падлеткаў і дарослых, выклікае такія электрамагнетычныя буры, ад якіх дурнеюць навігацыйныя мазгі аленяў у санках і іхніх уласнікаў. Зусім не здзіўлюся, калі там, у нябеснай дарожнай прасторы, пачнуць здарацца дзіўныя калізіі з удзелам калядных перавозчыкаў. А з неба нам на галаву пасыплюцца разбітыя сані, рогі аленяў, шапкі Мікалаяў і... пераблытаныя падарункі, якія ўжо зараз сталі неад'емнай часткай пакупніцкай наркаты. Хочаце верыць, ці не верыць, але я ў святочным перыядзе баюся хадзіць па людскіх крамах. Беручы пад увагу тут, на Падляшшы, працягласць каталіцка-праваслаўнага каляднага перыяду, можна адчуць на кожным кроку як чароўныя Мікалаі пераменьваюцца ў зграю святочна апранутых злосных сабак, якія любым спосабам хочуць дабрацца да нас і нашых кашалькоў. Проста, галава не вытрымлівае гэтай кансумпцыйнай мітусні і музычна-слоўнай брахні. Што тут гаварыць пра нас, дарослых, якія паддаюцца шуму рэкламы. А што адбываецца ў мазгах і псіхіцы дзяцей, лепш не згадваць. Бачыце самі, што пішучы пра свята Каляд не згадаў я да гэтай пары таямніцу нараджэння Ісуса Хрыста, не задумаўся над сэнсам і патрэбай посту ў гэтым часе. Урэшце не згадаў пра сутнасць калядных свят у хрысціянскай веры. Ці ж такім быць свету зараз і далей?

**Яўген ВАПА**

Настаўнікі роднай мовы

# У нас усе вучні ахвотна прымаюць удзел у занятках беларускай мовы

**— Чаму Вы сталі настаўнікам беларускай мовы?**

— У маленстве мы часта з сябрамі гулялі ў школу і я ведала, што ў жыцці хачу вучыць дзяцей. Настаўніцай беларускай мовы я пачала працаваць у Пачатковай школе ў Залуках.

**— Хто для Вас ідэал настаўніка роднай мовы?**

— Беларускую мову я пачала вывучаць толькі ва ўніверсітэце. Маім першым выкладчыкам быў прафесар Міхась Кандрацюк. Ён заўсёды гаварыў, што родную мову трэба цаніць і шанаваць. Размаўляў з намі па-беларуску і пакінуў станоўчае ўражанне.

**— Ці супрацоўнічаеце з настаўнікамі беларускай мовы ў іншых школах? Калі так, назавіце сваіх сяброў.**

— Калі я вучыла беларускай мове, супрацоўнічала з сяброўкамі з Гарадка — Эляй Раманчук і Тамарай Бялькевіч. Я таксама карыстаюся вопытам настаўнікаў на сустрэчах і канферэнцыях.

**— Якія арганізацыі і ўстановы, паводле Вас, найбольш дапамагаюць?**

— Вельмі многа конкурсаў і мерапрыемстваў ладзяць Беларускае грамадска-культурнае таварыства і аб'яднанне АБ-БА.

**— Ці ведзяце ў школе беларускія праекты для сваіх вучняў? Калі так, назавіце іх.**

— Некалькі гадоў таму мы з сяброўкамі вялі праект «З кухні прабабулі».

**— Ваш любімы беларускі конкурс?**

— Кожны год я рыхтавала вучняў да конкурсу «Роднае слова», заўсёды паспяхова і гэта мой любімы конкурс.

**— Ці можаце разлічваць на дапамогу бацькоў, асяроддзя?**

— У нашай школе як у сям'і. Дзякуючы бацькам, усе вучні вывучаюць беларускую мову. Заўсёды можна на іх разлічваць, яны дапамагаюць і прымаюць удзел ва ўсіх школьных мерапрыемствах. Разлічваць можам таксама на аб'яднанне «Залукі над Супраслю», якое вядзе школу і без дапамогі якога было б цяжэй.

**— Ці навучанне на прынцыпе добраахвотнасці для вас складанасць ці, можа, козыр?**

— Ад пачатку існавання школы (адзінаццаць гадоў) у нас усе вучні ахвотна прымалі і прымаюць удзел у занятках беларускай мовы.

**— Ці можаце зрабіць усё за тры гадзіны ў тыдзень, што раней запланавалі?**

— У нас невялікая колькасць дзяцей і таму некаторыя класы злучаны. Тады праз тры гадзіны ў тыдні настаўніку цяжка ўсё зрабіць, але гэта таксама залежыць ад групы.

**— Ёсць у Вас лаўрэаты прадметнага конкурсу? Калі так, назавіце іх лік.**

— Няма.



Марыя **ПАНАСЭВІЧ-ДУБІЦКАЯ** нарадзілася ў Дуброве-Беластоцкай. Закончыла філію Варшаўскага ўніверсітэта ў Беластоку па спецыяльнасці руская філалогія з беларускай мовай, паслядыпломныя курсы — па пачатковым навучанні, алігафрэнапедагогіцы і інфарматыцы. У школе ў Залуках працуе адзінаццаты год. Цяпер як настаўніца рускай мовы, пачатковага навучання і алігафрэнапедагогікі, а раней, дзевяць гадоў, працавала настаўніцай беларускай мовы. Жыве ў Беластоку з мужам, дачкой і сынам.




**— Ці, паводле Вас, падручнікі па беларускай мове дапасаваныя да сучаснасці?**

— Не ўсе. Трэба шукаць у інтэрнэце, карыстацца іншымі дапаможнікамі.

**— Ваш любімы падручнік па беларускай мове?**

— «Лемантар» — для наймалодшых, таму што я з такімі дзецьмі найбольш працавала.

**— Хто Ваш любімы беларускі аўтар?**

— Віктар Швед, Міра Лукша.

**— Якую беларускую кніжку Вы актуальна чытаеце?**

— «Прыгоды вялікай кнігі» Скота Кэрала. Я яе атрымала на семінары ў Мінску.

**— Ці прывіваеце цікавасць да беларускай прэсы?**

— Чытаю «Ніву». На занятках беларускай мовы з малодшымі групамі часта працавалі мы з «Зоркай».

**— Якое, паводле Вас, самае цікавае беларускае мерапрыемства?**

— Купалле, перш за ўсё ў Залуках.

**— Ці размаўляеце са сваімі вучнямі па-беларуску па-за ўрокамі, школай?**

— Стараюся, але не часта гэта, на жаль, атрымліваецца.

**— Ці маеце прыкрыя ўспаміны ў сувязі са сваёй прафесіяй?**

— Не, стараюся іх не трымаць у памяці.

**— Што Вас палохае, наклікае стому?**

— Заўсёды няма часу, каб зрабіць усё запланаванае. Няма часу для сябе.

**— Ці сярод Вашых вучняў ёсць вядомыя выпускнікі?**

— Яшчэ пакуль што няма.

**— Ці атрымалі Вы ўзнагароды за сваю працу (грашовыя, ганаровыя)?**

— Амаль кожны год атрымліваю ўзнагароду дырэктара школы за працу і дасягненні.

**— Што Вам дае сілу, натхненне?**

— Сілу ў жыцці даюць мне сябры, якія дапамагаюць мне і падтрымліваюць. На працы — поспехі маіх вучняў і іх задавальненне. Прыватна — муж і дзеці.

**— Самы цудоўны ўспамін настаўніка беларускай мовы?**

— Калі мой вучань стаў лаўрэатам дэкламатарскага конкурсу „Роднае слова” ў Бельску-Падляшскім. Кожная ўсмешка, удзячнасць дзяцей, гэта таксама цудоўны ўспамін.

**— Які нацыянальны сімвал упрыгожвае Ваш клас?**

— У маёй школе няма класа беларускай мовы. Заняткі праходзяць у розных залах, таму не было ў мяне нацыянальных сімвалаў. У школе існуе куточак — Рэгіянальная ізба, дзе знаходзяцца артэфакты беларускай культуры — ручнікі, макаткі, адзенне, хатнія прылады. Ізба паўстала дзякуючы бацькам і жыхарам вёскі Залукі.

**— Як бачыце будучыню беларусаў**

— Паводле мяне будучыня беларусаў будзе залежаць ад маладых людзей і іх адукацыі.

Апытальнік правяла Ганна **КАНДРАЦЮК**

## Вуліцы ў паўзмроку

Недзе ад 20 снежня гэтага года на вуліцы ў Новым Ляўкове Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета завіцілі новыя суперэнергазберагальныя электралямпачкі. Цяпер зімовым імглістым доўгім вечарам яна патанае ў паўзмроку. Таму яшчэ больш сумна і панура ў вёсцы над Баброўкай. Ноччу ў Новым Ляўкове як і ў іншых навакольных сёлах лямпачкі вулічнага электраасвятлення ўвогуле не свецяць, бо іх выключаюць. У канцы ночы яны коратка блісуць пасля пятай гадзіны раніцы.

Адна электралямпачка на слупе свеціць ясней толькі на скрыжаванні вуліц ваяводскай № 687 з павятовай. Усе іншыя як вышэйапісана. Нараўчанская гміна жыве ашчадна. У тым выпадку яна празмерна ашчаджае. У папярэдніе гады, як я памятаю, восенню і зімой лямпачкі вулічнага электраасвятлення гэтак цьмяна як цяпер не гарэлі. І не былі яны тады такія як зараз энергазберагальныя. **(яц)**

## Там, дзе быў скверык

Паміж чыгуначным вакзалам і вуліцай Варшаўскай у Гайнаўцы быў загароджаны прыгожы скверык. Памятаю яго з 1960 года. Тады тут раслі першнаперш стройныя высокія сосны (галіны іх былі высока-высока пры самым вяршку), там-сям галінастыя дубы ды на значнай плошчы пры платах вялікія кусты бэзу і язміну.

Пры сцяжынцы, якая бегла цераз увесь скверык, уздоўж стаялі драўляныя лавачкі. Было ўтульна. Тут збіралася моладзь з розных бакоў горада. У цёплую пару года на вольнай ад дрэў пляцоўцы пасярэдзіне скверыка юнакі гулялі валейбол.

З таго часу мінула шмат гадоў. Наведаў я гайнаўскі скверык 11 снежня гэтага года. Агароджы няма. З зямлі і травы там-сям вытыркаецца бетонны падмурак. Шырокая зараз дарожка бяжыць наўскасяк. У рагу скверыка пры вуліцы стаіць адзін магутны і здаравенны дуб. Няма зараз тых колішніх прыгожых велізарных сосен. З аднаго боку скверыка прытаіліся дзве сасонкі і некалькі дубкоў. Цяпер пачалася перамены. Каля колішняга скверыка сёлетняй восенню пабудавалі больш сучасныя пуці. Маюць пусціць паязды з Гайнаўкі да Бельска-Падляшскага. **(яц)**

## Калядуйма разам

16 студзеня 2020 года Гмінны асяродак культуры ў Нараўцы Гайнаўскага павета традыцыйна ўжо ладзіць конкурс калядоўшчыкаў „Калядуйма разам”. Агляд пачнецца а гадзіне 11-й у ГАК па вуліцы Новай, 3а.

Па дэталёвую інфармацыю можна пазваніць у ГАК у дні ад аўторка да суботы ў гадзінах ад 10-й да 18-й на нумар (85) 685 80 34. Арганізатар сардэчна запрашае ўсіх — дзяцей, моладзь і дарослых — ахвотных калядоўшчыкаў да ўдзелу ў мерапрыемстве. Бярыце з сабой гвязду (чым прыгажэйшую, тым узнагарода будзе лепшая), прыгожыя калядкі ды добры настрой і прыязджайце на агляд у Нараўку. Тут пакалядуйма разам і Хрыста шчыра праслаўляйма. **(яц)**




# Кузаўскі ўспамін (8)



Царкоўны фэст св. Тэклі ў Кузаве ў 1962 адзначаўся 7 кастрычніка ў нядзелю. Традыцыйна ў сяле моладзь арганізавала святочную забаву. Танцавальная вечарына пачыналася пры першых поцемках. Побач мясцовай святліцы загадзя збіралася моладзь з навакольных вёсак. Мясцовая кавалерка прыходзіла крыху пазней, паколькі падтрымлівала кампанію пры сямейным застоллі. Мы традыцыйна на Тэклю гасцявалі дзядзечку Рамана, бацькавага брата з Дабрывады і цётку Ганну. У рэваншы яны нас запрашалі на Пяцёнку. З братухай Віктарам мы пакідалі сямейных гасцей на адвячорку і падаваліся на забаву. Праз адкрытыя вокны святліцы несліся звонкія гукі музыкі. У перапынках дзяўчаты заводзілі свойскія напевы. Калі гэтыя сціхлі, дык да пявунняў падышоў братуха Віктар і кінуў у бок запявалы, сімпатычнай бландзінкі: «А мо б так нашу „рэкруцкую” заспявалі?», і, не чакаючы адказу, зацягнуў:

Последний нынешний денёчек,
Гуляю с вами я друзья.
А завтра рано чуть свиточек
Заплачет вся моя семья.
Заплачет мать моя родная,
Заплачет родный мой отец,
Ещё заплачет дорогая,
З которой три года гулял.
Бывала, с вечера да зорки
Лежу я в милой на грудях,
Теперь заиграют марш военный,
Спешу в казарму, ложусь спать.
Казарма была холодная,
Ложусь на голому полу.
Чужая маменька не скажет:
— Вставай, сыночек, постелю.

Да кампаніі спевакоў далучыліся Віктаравы калегі, прызыўнікі Колька Андрушкаў і Федзя Міхалішын. Ад пявунняў палачку вядучага пераняў Віктар. Далучыўся і я з кузаўскай кавалеркай. Пачаўся канцэрт па заяўках. Моладзь уперамешку выконвала песні „Распрагайтэ хлопці коней”, „Шла дзевэчка до лясэчка”, „Скакал казак через даліну” ды іншыя. У гэтых напевах рэй вадзіў братуха. У дуэце мы заспявалі свае любімыя „Рідна маты моя”, „Вася, Василёк” і „Маладзёхная”. А моладзі прыбывала. У невялічкай святліцы ледзь змяшчаліся госці. Старэйшыя жанчыны займалі месца пад адкрытымі вокнамі. Прыйшлі з цікавасці, каб пасля перагаворваць хто з кім гуляў, ці проста „языком паляпаць”. Такая ўжо была звычка кузаўскіх бабак. Мужчыны не заставаліся ззаду. Кучка маладажонаў сабралася пры ўваходных дзвярах і аб нечым талкавалі. Недзе перад вячэрай музыканты зайгралі вальс „Амурския хвалі”. Я падняўся на сцэну і заказаў танец для прызыўнікоў: „Poborowi tańczą”. Нікому ў думцы не мільганула, што ад гэтага пачнецца сумятня, сапраўдная бітва. Не паспеў я са сцэны зысці, як побач мяне прасунуўся карэнкаваты „забіяка” з Чаромхі-Сяла і звонкім голасам заявіў: «Вёска Чаромха гуляе!» Гэта ўзбударажыла кузаўскіх кавалераў. Першым пачаў Віцька з казармы. «Хто ты такі, што камандуеш нашай забавай?» і, насцярожыўшыся, падступіў да чарамшука. Гэты без запінкі грымну Віцьку ў чэрап. І пачаўся рукапашны бой. Чарамшукі, зухаватыя хлопцы, у шасцідзясятых гадах былі вядомымі ў наваколлі забіякамі. І тут аказаліся б пераможцамі, калі б не кузаўскія маладажоны. Памаглі яны сваёй кавалерцы. Лупілі чарамшукоў без літасці. Праз адкрытыя дзверы святліцы пачуўся дзікі воклiч: «Ратуйце, забіваюць!!!» Праскочыў я на ганак. У поцемках угледзеў Віцьку з казармы, які змагаўся з рослым чарамшуком. Гэты пазнаўшы мяне, загаласіў: «Ратуй, Валодзька, я невінаваты... У рэчку цягнуць, утапіць хочуць». А ў святліцы доўжылася бітва. У ход пайшлі крэслы. Хто чым мог глумілі чарамшукоў. Памятаю, як мая школьная сяброўка Лідка схапіла са столка вядро з вадою ды хлюснула ў твар чарамшуку. Дзяўчына да канца забавы скрывалася, баялася помсты.

У Кузаве чаромхаўскія забіякі аказаліся пабітымі. Віноўнікам прызналі братуху Віктара. У армію адпраўляўся ён перад Пакровай. Праводзіла моладзь з музыкантам. Чарамшукі збіраліся даць яму лупцоўку на станцыі. Мне раней аб гэтым даказалі. Усё абышлося спакойна, бо за парадкам наглядала міліцыя. Засталася адно ў памяці — скандальная забава з нагоды кузаўскага фэсту св. вялікамучаніцы Тэклі.

(працяг будзе)

**Уладзімір СІДАРУК**

# Бел-белтурызм

https://wrotapodlasia.p

Дэлегацыя з Беларусі 10 снежня пабывала ў Беластоку ў Маршалкоўскай управе Падляшскага ваяводства на сустрэчы на тэму польска-беларускага супрацоўніцтва ў сферы турызму і міжнароднага прасоўвання. У ёй прынялі ўдзел сярод іншых беларускія прадпрымальнікі турыстычнай галіны, намеснік міністра спорту і турызму Рэспублікі Беларусь Міхаіл Партной, генеральная консул РБ у Беластоку Ала Фёдарава, а з польскага боку — намеснік міністра Роберт Кшыштаф Навіцкі з Міністэрства развіцця. Самакіраванне Падляшскага ваяводства прадстаўляў намеснік маршалка Станіслаў Дэрэгайла, члены ўправы Веслава Бурнос і Марэк Маліноўскі. Вітаючы гасцей, маршалак Дэрэгайла падкрэсліў, што польска-беларускія турыстычныя праекты з'яўляюцца вельмі важным элементам з пункту гледжання развіцця эканомікі нашага рэгіёна. Яны таксама выконваюць значную грамадскую функцыю — аб'ядноўваюць жыхароў памежных тэрыторый. Аб інтэграцыйным аспекце выказаўся і намеснік міністра Міхаіл Партной, які заявіў пра гатоўнасць арганізаваць польска-беларускія спартыўныя мерапрыемствы.

Як падкрэслівалася, грамадская інтэграцыя — першы крок да развіцця турызму, які, дзякуючы каштоўнасці памежных тэрыторый як з польскага, так і з беларускага боку, можа стаць значнай галінай эканомікі.

Віцэ-міністр Навіцкі адзначыў, што для прасоўвання самых вялікіх турыстычных славутасцей неабходна распачаць сумесныя дзеянні: „Гэта вельмі важны элемент для прыцягнення турыстаў”. Былі таксама абмеркаваны пытанні аб адаптацыі існуючых польска-беларускіх памежных пераходаў для пешых і веласіпедных пераходаў, а таксама пра стварэнне новых — важных для турызму.

Сустрэча ў Маршалкоўскай управе — адзін з пунктаў чатырохдзённага навучальнага візіту прадстаўнікоў беларускай турыстычнай галіны ў Падляшскім ваяводстве. Госці з-за ўсходняй мяжы мелі магчымасць даведацца пра турыстычныя каштоўнасці Падляшша, наведалі аграгаспадаркі, сустракаліся з прадстаўнікамі мясцовых органаў улады і прадпрымальнікамі турыстычнай галіны Падляшша. **(лук)**

# Супольныя праекты

Прайшлі семінары ў Гродне з прадстаўнікамі Беластоцкага павета. У рамках праекта, які рэалізуецца сумесна з партнёрамі з Гродна і Гарадоцкай гміны, будуць адноўлены два ўчасткі дарог у Беластоцкім павеце і адна дарога з беларускага боку.

З лютага 2019 года Беластоцкі павет разам з Гарадоцкай гмінай і Гродзенскім раённым выканаўчым камітэтам і гарадскім праектна-рамонтным і будаўнічым прадпрыемствам „Гроднааблдастрой” у Гродне рэалізуе праект пад назвай „Трансгранічная сетка для ўстойлівага ўпраўлення транспартам” з Праграмы трансгранічнага супрацоўніцтва PL-BY-UA на 2014-2020 гады.

У адпаведнасці са здагадкамі праекта ў Гродне, семінары прайшлі пад назвай „Трансгранічная палітыка ўстойлівага транспарту”. З польскага боку ўдзельнічалі прадстаўнікі Беластоцкага павета на чале са старастам Янам Баляславам Пэркоўскім, Павятовай управы дарожнага руху ў Беластоку і Гарадоцкай гміны.

Удзельнікі прадставілі канцэпцыі ўстойлівага транспарту ў польска-беларускай памежнай зоне, каб эфектыўна выкарыстоўваць транзітны патэнцыял абедзвюх краін. Недастатковая дарожная сувязь перашкаджае прыгранічным кантактам, абцяжарвае транзітны рух і адпаведна зніжае прывабнасць для інвестараў, а таксама турыстаў.

„Мы рады, што ў нас ёсць такі партнёр, як Гродзенская вобласць, з якой мы можам рабіць інвестыцыі. Мы спадзяемся, што ў будучыні такіх праектаў будзе яшчэ больш, і мы знойдзем дадатковую агульную мову, якая звяжа Гродзенскую вобласць з Беластоцкім паветам”, — сказаў староста Ян Пэркоўскі.

У рамках праекта да канца 2020 года на польскім баку будуць разбудоўвацца наступныя дарогі: Крынкі — Крушыняны — Лужаны — Бабpоўнікі, на ўчастку ад мяжы з Сакольскім паветам да Бабpоўнік (агульнай працягласцю 4 км 790 м) і муніцыпальная дарога ў Бабpоўніках (агульнай даўжынёй 466 м). З беларускага боку гэта будзе дарога Свяцк — Васілевічы — Асташа — Кадыш (агульнай даўжынёй 6 км і 500 м).

**(лук)**

# Працаваў прадаўцом і на гаспадарцы

Размова з **Васілём ШЫМЧУКОМ**, 1935 года нараджэння са Шчытоў-Дзенцялова ў Арлянскай гміне.


Васіль і Зіна Шымчукі

❖ **Ці Вы помніце сваіх дзядоў?**

— Маці Варвара, у дзявоцтве Петручук, са Шчытоў-Дзенцялова. Бацька Гаўрыіл Шымчук меў трох братоў, з якіх адзін, Коля, выехаў за працай у Аргенціну і там астаўся. Бацька памёр, калі мне было 11 гадоў.

❖ **Як у Шчытах было ў час Другой сусветнай вайны?**

— У пачатку вайны саветаў з немцамі ў нашай сям'і ўсё згарэла. Расказвала маці: ехала савецкая разведка матацыклам з Орлі праз Шчыты пад шашу. А на шашы стаяў эшалон нямецкага войска. То пачалі страляць запальнымі снарадамі па вёсцы. І ў нас усё згарэла, нават тычка і накрыўка на студні; стоўб астаўся.

У суседнюю вёску Навадворы прыходзіў ноччу нейкі Жорж. У Збучы быў солтыс, які даносіў немцам. Далажыў, што два браты Качаноўскія маюць сувязь з партызанамі. Прыехалі з Орлі жандары і іх замкнулі ў хатцы на рагу. Пільнаваў жандар. Адзін з братоў папрасіў жандара, каб паслабіў яму кайданы. І вырваўся, забраў ружжо, але жандар яго пераканаў, каб ружжо аддаў. І абодвух братоў застрэлілі; пахавалі на могілках.

Пра тое здарэнне так у 1997 годзе расказвала мне Зінаіда Нядзельская, у дзявоцтве Карач, з Орлі (26.11.1916-07.02.2001), сваячка забітых: «Маіх блізкіх сваякоў, дваіх братоў Качаноўскіх, забілі ў Шчытах немцы невядома за што. Пахавалі іх у Шчытах. То іхняя маці з таго ўсяго моцна захварэла, разграбала магілу. Штовечар з кожнай вуліцы немцы вызначалі патруль для пільнавання ад партызанаў. Калі прыйшлі рускія, то ў Шчытах зрабілі ім намагільнік».

❖ **У Шчытах жыў жыд.**

— Тут, дзе наша ўладанне, жыў жыд Файбель. На рагу вуліцы, дзе пазней было пажарнае дэпо, меў карчму. Меў дачку Мэйту. Пасля вайны Мэйта наведала Шчыты, размаўляла з маёй маці Варварай. У час вайны, пад нямецкай акупацыяй, уцякла ў Расію. Уцякалі ноччу, а днямі прыхodзілася начаваць на багнах, аж яе злавілі. Тлумачыла ім, што мела тут, у Шчытах, кантакты з партызанамі. То чаго ж ты ўцякала, сказалі ёй, трэба было далей дзейнічаць на той тэрыторыі. Калі прыехала ў Шчыты і пабачыла, што ўсё іхняе тут спалена, яна цалавала зямлю, як папа, і казала: „Тут мая радзіма".

❖ **Ваша адукацыя, першая праца...**

— У 1946 годзе пайшоў у школу ў Шчытах. У школу бегаў басанож, бо ў вайну ў нас усё згарэла. Тут закончыў чатыры класы. Пасля, калі брат зарабіў на работах у Гданьску, купіў ровар. І я роварам ездзіў у школу ў Орлю, у 5-7 класы. Кіраўніком школы быў Лашкевіч, вучыў Нэстэровіч.

У падставоўцы бралі нас у СП (Służba Polsce) на некалькі тыдняў. Бралі ў Ольштынскае, у пэгеэры, на жніва; солтыс вызначаў. Нас было чатырох братоў, то аднаго бралі.

Пасля падставоўкі запісаўся ў Беллііцэй у Бельску, па Відаўскай. Дырэктарам быў Кастыцэвіч, калега майго бацькі. Даязджаў я ў школу на роварах, але толькі праз два месяцы. У школе сказалі, што калі хтосьці не дае рады, то ў Гайнаўцы вядзе набор прафвучылішча. І я паехаў у Гайнаўку, у двухгадовую сталярскую.

Пасля заканчэння школы дэлегавалі нас у Нідзіцу. Паехалі туды хлопцы з Орлі, з Рудутаў — Бахэнэк, з Кашалёў — Павел Хурса. Некаторыя пасля там пажаніліся. Я туды не паехаў.

Пасля школы даязджаў на працу ў Бельск, у сталярню. Але было цяжка. І адзін знаёмы з праўлення порта ў Шчэціне запрасіў мяне туды на працу. Была там цяжкая праца. Мяшкі шытыя з крапівы і па сто кілаграмаў рысу. Трэба было насіць на спіне ў вагоны. Працаваў там тры месяцы, бо атрымаў пісьмо з дому, што маці вельмі пакалечыла нагу сярпом. Мусіў вяртацца на гаспадарку; быў гэта 1952 або 1953 год.

❖ **А ці былі Вы ў войску?**

— Прызвалі на два гады ў Дэмбіцу ў сапёрную часць, у школьны ўзвод. Атрымаў капраля, далі дружыну з сямі жаўнераў.

❖ **Ці ў войску была магчымасць размаўляць па-свойму?**

— Не, увесь час па-польску. Разам у войску былі Стасек Сарнацкі і Рысек Збітоўскі з Бельска, Мікалай Грыц і Віктар Ляўчук з Гайнаўкі.

❖ **Ці бралі Вас у запас?**

— Адзін раз прызвалі на два месяцы ў Ольштын, возера Длуге, там была наша часць.

❖ **Ці ў Шчытах быў калгас? Калі ў вас завялі электраток?**

— У Шчытах не было, а быў у Крывой. Хадзілі, каб людзі запісваліся, але ў нас не было ахвотных. Кожны аддаваў перавагу працы на сваёй зямлі. Электраток у хаты правялі ў 1952 або ў 1955 годзе.

❖ **Ваша прыватнае жыццё?**

— Ажаніўся ў 1966 годзе, жонка Зіна, у дзявоцтве Шарала, са Шчытоў. Шлюб бралі 4 чэрвеня ў панядзелак. У нас дзве дачкі. Найстарэйшы ўнук мае 26 гадоў, наймалодшы — адзінаццаць.

❖ **Ваша прафесійная праца?**

— Быў прадаўцом у краме ў Шчытах. Тады прэзасам ПЗГС у Бельску быў Карнілюк, а ў Орлі прэзасам ГСу быў Буркевіч. Пабачылі, што такі энергічны хлопец — і ўзялі мяне ў Орлю.

У арлянскім ГСе быў я спачатку арганізатарам сельскагаспадарчай абслугі. Сельскай гаспадаркай займаўся прэзас Лемеш з Кашалёў, галоўны прэзас Буркевіч быў з Парцава, а галоўным кнігаводам была Ліда Васілюк.

Пасля ўзялі мяне на прадаўца ў жалезную краму, у якой раней прадаваў Карзун з Кашалёў. Ездзіў я таксама па аліву і бензін у ЦПН у Беластоку, прывозіў дзве бочкі — так прэзасы загадвалі.

Ездзіў таксама ў Гайнаўку на Горнае ў аптовы склад. Людзі патрабавалі бондаркі... Спярша заязджаў на „старую" мясарню ў Орлі да кіраўніка Аляксандра Савіцкага па закуску — даваў мне каўбасу: „Маеш, хай хлопцы ядуць", — казаў. І калі заехаў у аптовы склад, паказаў паўлітроўку і закуску, то яны мне давалі поўна, колькі хочаш. Людзі бралі бондарку на скляпенні, бондар — на абручы для бочак. Паяўлялася праблема з продажам бондаркі, бо не хапала, а людзі пхаліся.

Прэзасы мяняліся. Буркевіч адышоў у Бельск і вёў папяровы магазін. Выбралі Владка Якімовіча, пасля Толіка Адзіевіча, сельскім быў Коля Ярымовіч, а потым Федаровіч.

Быў я прадаўцом і ў іншых крамах. Прадаваў тэлевізары, якія прывозіў з Лап. Прадаваў абутак у невялікай краме, якую пабудавалі з драўляных элементаў на рагу парку ад царквы.

❖ **У пачатку 1980-х гадоў разбудавалі арлянскі ГС па вуліцы Ажэшкі. Вы там былі кладаўшчыком.**

— Выслалі мяне на два тыдні на абучэнне ў Бжэг у Апольскім ваяводстве. І пасля далі ў Орлі збожжавы склад. Да мяне быў там Коля Кубаеўскі, Коля Лемеш. Прымаў збожжа, рапс, насенне лёну, гарох, бульбу. Пасля заказвалі самаходы з СТВ і бульбу вазілі ў Семяноўку, адтуль высылалі ў СССР.

❖ **Запытаю яшчэ, як памяняліся людзі: якія былі калісь, а якія зараз?**

— Калісь, пасля вайны, людзі нічога не ведалі, толькі ў поле і караў ганялі. Я таксама ўзяў у Орлі пяць гектараў пашы для караў; меў чатыры штукі. Абгарадзіў, то мне разгарадзілі, бо там лепшая трава.

На гэтай вуліцы, дзе я зараз, то толькі я адзін „дзяжуру". Побач, на другой вуліцы, крыху больш людзей жыве. Прыезджыя купляюць хаты і да старой драўлянай дабудоўваюць мураваную, разбудоўваюць. Але пастаянна тут не жывуць.

❖ **Дзякую за размову.**

❖Размаўляў і фатаграфаваў
**Міхал МІНЦЭВІЧ**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Гэты поспех асмеліць нас развіваць пасію...

**Марта і Магда Драздоўскія** заваявалі галоўныя прызы «Дэбюту». Марта — лаўрэатка першага месца, Магда заваявала трэцяе месца. Дзяўчаты, вучаніцы сёмага класа ПШ у Міхалове. Яны родныя сёстры-блізнючкі.

**Зорка:** — *Як вы прыдумалі свае вершы?*

**Марта:** — Найбольшая тут заслуга пані Эміліі. Яна прапанавала нам тэмы і цэлы час была для нас інспірацыяй. А мы паднялі выклік і прыступілі да конкурсу.

**Зорка:** — *А як выглядала гэтая інспірацыя?*

**Марта:** — На ўроках беларускай мовы пані Эмілія чытае нам прыгожыя вершы і апавяданні. Тады слухаем і думаем пра тое, што падобнае з табой здарылася ў жыцці. Думаеш, а пасля пераносіш усё гэта на паперу...

**Магда:** — Настаўніца дапамагае не толькі нам выявіць думкі па-беларуску, яна правярае вершы. Правіць памылкі і гэта дадае ўпэўненасці.

**Зорка:** — *Колькі часу вывучаеце беларускую мову?*

**Магда:** — Ужо... з чацвёртага класа.

**Марта:** — І ўжо чацвёрты раз прымаем удзел у конкурсе «Дэбют». Але раней у нас не было такіх вялікіх узнагарод, толькі вылучэнні.

**Магда:** — Для нас гэта ўсё нечакана. Гэты поспех асмеліць нас развіваць *пасію* і далей прымаць удзел у беларускіх конкурсах.

**Зорка:** — *Вы такія асобныя, непадобныя на сябе. Ці ў вас таксама розныя зацікаўленні?*

**Марта:** — Я люблю глядзець тэлесерыялы і люблю маляваць.

**Магда:** — А я люблю коней і люблю рысаваць.

**Зорка:** — *У вас свае коні?*

**Магда:** — Не, я езджу ў падміхалоўскія Пянькі, дзе конская стадніна. Там не толькі вучуся язды, але як займацца коньмі.

**Зорка:** — *Умееш ужо дамовіцца з канём без слоў?*

**Магда:** — О, гэта фантастычны ўрок жыцця. Каб добра ездзіць, трэба разумець свайго каня, апекавацца ім. Кантакт з канём вельмі рэляксуе, вяртае добры настрой. Думаю нават пра прафесію конскага ветэрынара.

**Марта:** — А мяне больш цягне ў бок літаратуры і мастацтва.

**Зорка:** — *Вы ўжо ў такім узросце, калі пачынаюць захапляць хлопцы. Гэтае захапленне адчуваецца ў вершах. Вы хацелі б прачытаць свае вершы хлопцам?*

**Разам:** — *О, небардзо!!!*

**Зорка:** — *А што — яны ўсе футбалісты?*

**Марта:** — Можа некаторыя і пацікавіліся б нашымі вершамі. Можа варта пра гэта падумаць і выступіць у час школьнага свята...

**Зорка:** — *Разам з вамі ў Беласток прыехала мама. Хто найбольш хваляваўся з вашай тройцы?*

**Магда і Марта:** — Мама, вядома, мама! Ну мы таксама мелі *трэму*. Баяліся выйсці на сцэну і прачытаць вершы. Але цяпер з вялікай любоўю думаем пра беларускую мову і нашу паню Эмілію. Гэта яна вычаравала гэты вялікі поспех.

*Фота:* **Ганны Кандрацюк**




Пераможцы (справа) Марта і Магда Драздоўскія, Алівія Казёл, Дар'юш Жукоўскі, Вера Русіновіч



Марта і Магда з мамай

Магдалена ДРАЗДОЎСКАЯ
Міхалова

## Успамін

Прыйдзі, адчыні мой свет
Прыйдзі, усярэдзіне сон
салодкі чакае
З клеткі, якая нас трымае,
уцячы час.
Гэтыя прошлыя дні,
Якія мы разам правялі,
Блякнуць у маіх успамінах.
Не хачу траціць прасякнутай
страхам часткі сябе,
Не магу ашукаць лёсу.
Але не толькі я адна...

Марта ДРАЗДОЎСКАЯ
Міхалова

## Палатно

Ноччу, калі сонца схаваецца,
Мастак угледаецца,
У гэты час можна пабачыць
усё бліжэй,
На чорным палатне мастак
малюе белыя кропкі,
Кропкі складаюць
розныя ўзоры,
Былі як сабака ці кот,
Нават як робат,
Мастак пацягнуў коскі,
Гэта статак коней прыпамінае,
Усё гэта цікавы вобраз
напамінае,
Але раптам усё панікла,
Палатно знікла,
Памянялася на белае,
А я пайшла далей.

## УВАГА КОНКУРС!
## № 52-19

**Што пасярэдзіне Бельска стаіць?**

(падказка: нешта мяккае!)

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку" да 12 студзеня 2020 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

## Загадкі з роднай хаткі

**Адказ на загадку № 48: год. Узнагароды — беларускія наклейкі — выйгралі Андрэй Бонда, Матэвуш Панькоўскі, Мікола Пракапюк з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку, Оля Мадзэлеўская, Юля Дэрпеньская з Нарвы. Віншуем!**

# Карп і яго жыццё

У калядны перыяд дзясяткі разоў чуем слова «карп». З гэтай рыбы ўсё часцей рыхтуем калядную страву. Дзеля кулінарыі карыстаемся найперш рыбай са штучнай гадоўлі.

Сёння прапануем вам глянуць на капра інакш чым вокам спажыўца.



Карп незвычайная рыба. На волі ён жыве да 30-35 гадоў і можа дасягнуць вагу да 20 кілаграмаў. Праўда, яго рост спыняецца ў 7-8 гадоў, значыць асноўны прырост вагі адбываецца ў першую чвэрць жыцця. Вясной і ў пачатку лета ён з'ядае парасткі чароту, мячэўніку і іншых водных раслін. Яго прысутнасць спрыяе чысціні рэк, азёраў, вадаёмаў.

Сёння прапануем вам размаляваць карпа з беларускім арнаментам, паводле менскай мастачкі А. Шамаковай. Узор можна перанесці на цішотку, або палатняны пакецік.

**Зорка**

# Міфы
## старажытных беларусаў

Зялёны колер беларусы ўспрымалі дваіста. Ён абазначаў лета — сімвал жыццяздольнасці і, адначасова, пасіўнасці — смерць. З зеленню спалучалі прыход вясны. Зялёны вясновы сад — сімвал маладосці, жыцця, актыўнасці.

У народзе існавалі прыкметы, звязаныя з зялёным колерам. Напрыклад, калі птушка пачынала кукаваць «на зялёным лузе», чакалі добрага ўраджаю збожжа.

Паколькі зеляніна выходзіла з зямлі, людзі верылі, што яна дачка — падзямельнага свету і нават нячыстай сілы. Людзі верылі, што зялёныя валасы і вочы мелі лесавік, русалкі і вадзянік. Апошні ўвесь быў зялёнага колеру і з зялёнай барадой.

Зялёны колер у замовах мог быць атрыбутам прыроды ці нябеснай прасторы, у якой панавала нячыстая сіла. Знахары прыпісвалі зялёны колер месцам, куды адсылалі хваробы (напрыклад на зялёны луг).

Значную ролю адыгрывала зеляніна падчас вясновых і летніх абрадаў і святочных паходаў перапранутых людзей. На Падляшшы пад Тройцу вадзілі «Куст». Гэта была апранутая ў зялёныя галінкі клёну дзяўчына — сімвал вясны і ўраджаю. Яе прыход у двор меў пажадальны характар — як зараз калядаванне. Група, якая вадзіла «Куст», спявала гаспадару песні, што мела наклікаць прыбытак у хаце.

Зелянінай аздаблялі жывёлу, калі першы раз выганялі яе на папас. Таксама на Тройцу аздаблялі хаты і вароты зелянінай. Зялёныя расліны лічылі сродкам супраць сурокаў, чараў і нячыстай сілы. Біццё зялёнай галінкай членаў сям'і і жывёлы (у нас гэта практыкавалі на Вербніцу), лічылі добрым сродкам супраць хвароб і для надання бадзёрасці.

На падляшскім вяселлі ўпрыгожвалі незамужніх кавалераў банцікамі з галінкай вечназялёнага аспарагусу або барвенку. Гэтымі раслінамі аздаблялі шлюбны ручнічок або палаценца, а таксама каравай і хату знутры. Вядома, без гэтага колеру не мог абысціся шлюбны вянок маладой.

Пры варажбе, калі ў ваду ставілі загадзя зрэзаныя галінкі, а на іх своечасова з'яўляліся зялёныя лісточкі і доўга захоўвалі свежасць раслін, то гэта лічылі добрай прыкметай — што ўсё будзе добра.

(Адрэзак, адрэдагаваны паводле кніжкі Алены Коршак «Беларуская міфалогія для дзяцей»). **(гак)**

# Польска-беларуская крыжаванка № 52-19

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 48-2019:** Гаспадыня, фізік, вярба, цела, сто, іголка, гук, шаг, каштан, сто. Шафа, сук, газетка, сук, ціша, веган, дыялог, кот, ягада.

Узнагароды, маркеры для вылучэння тэкстаў (zakreślacze), выйгралі **Якуб Амелянюк, Сафія Плева** з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку, **Тамаш Ваўранюк** з Нарвы, **Грэта Тамаля** з Міхалова, **Наталля Кіндзюк** з Нараўкі, **Вікторыя Залеўская** з Орлі. Віншуем!

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Śmietana / Sąsiad | | | | | | Dzik | |
| | Oddech / i | Kłamstwo | | Cyrk | | Śmiałek / Los | | Dzielnica | |
| | Zawieja | | | | | | | | |
| Motylek | | | | | | | | | |
| | Opracowanie, szkic lit. | | | | | | As | he! | |
| Bank | | | | | | Aha | | | |
| Bo | | | | Bocian | | | | | |

Частка 9

# Генетычны алфавіт



Тут яна памылялася. Што там той аблезлы кот са сваёй смятанай нявызначанай тлустасці. Смех у параўнанні з гэтым шалёным хаценнем. Яно ж не столькі фізічнае, колькі амбіцыйнае. Ну, як жа так! Ён жа яе кахае! Сказаў, што жэніцца! Паабяцаў! Што яна ад яго яшчэ хоча пачуць?! Што гэта яна прыдурваецца?! Ламаецца тут як... Эх! Ну, якой трасцы ёй яшчэ трэба?!

Ласкавае сонейка працягвала ўсміхацца закаханым цяплом ранішніх промняў. Лёгкі заходні ветрык абдымаў іх за плечы, закідваў доўгія дзявочыя валасы, якія зіхацелі на сонцы, прама хлопцу на вусны. Гэта яго яшчэ больш бударажыла, узбуджала і крыўдзіла да слёз. Ну, як жа так?! Гэта ж усё ўжо ягонае, як купленыя пазаўчора на рынку чаравікі! Дык чаму нельга гэтым карыстацца да нейкага там вяселля, якое рана ці позна і так будзе... Вось бульбу выкапаюць, буракі пацярэбяць, капусту нашынкуюць, салому нарыхтуюць, тэхніку да зімы падрыхтуюць — і тады можна вяселлем заняцца. Усяму свой час, так бы мовіць.

Але ж як будзе сорамна, калі яна ажно да вяселля не падпарадкуецца яму... Сорамна перад сябрамі, перад самім сабой, перад усімі... Будзе тады ён сядзець на тым вяселлі як у портКі наклаўшы. Што ён за мужчына такі, калі не зможа падпарадкаваць сабе бабу? Прычым каханую бабу! Сваю бабу! Сваю ўласную! Ну, гэта ні ў якія вароты не лезе!

— Дык дасі ці не? — паставіў ён пытанне рубам.

Дзяўчына бачыла, што хлопец не на жарт разышоўся. Падняўся, што свіння на гукі. Гілюе, як пакусаная ваднямі карова. На смяротны бой ідуць не так знервавана і рашуча. Тут трэба вывернуцца навонкі і перакруціцца на пупе, каб і сваіх пазіцый не здаць, і яго не ўзлаваць да максімальнай рысы.

— Ну, прыйдзецца, як ты так настойваеш, што забіць можаш, — пралепятала яна няўпэўненым голасам.

— Ну, дык давай, — абнадзеіўся той.

— Прыйдзецца, але не зараз, — нібыта выліла яна на яго цэбар халоднай вады. — Не час яшчэ!

Блакітнае неба адлюстроўвалася ў чыстай вадзе рачулкі і пяшчотна цешылася з нястрымных жарсцяў, дзіцячых крыўдаў і іншых, значна больш вялікіх, глыбокіх і важных пачуццяў закаханых. А воды самой рачулкі плылі ціхенька-ціхенька, як па небе, каб аніводным неасцярожным гукам не перашкодзіць ім.

— Ды мяне гэта задзяўбала! — раптам выкрыкнуў безнадзейна закаханы так гучна, што ледзьве, як дынамітам, не паглушыў рыбу.

І ўсхапіўся з месца.

— Колькі ж можна? — махануў ён злосна пінжак у траву. — Гэта ненармальна, калі двое закаханых людзей не спяць разам.

Рака стала яшчэ цішэйшай. Як напалохалася ўсё адно. Плынь запаволілася. Рыбы то і так маўчалі, а зараз і рухацца перасталі.

— Гэта ненармальна, калі яны спяць да шлюбу! — стаяла на сваім Алена.

Але і Васіль таксама не думаў здавацца без бою. У яго быў прызапашаны вельмі важкі аргумент. Як кажуць, раяль у кустах. Аргумент аргументаў. Аргумент, які, калі выказаць яго ў правільны момант, ніадна прыстойная дзеўка не будзе ігнараваць ні ў якім разе. Прыстойная асабліва. І здасца. Абавязкова здасца на міласць пераможцы.

А яго ж Аленка прыстойная. Ён жа ведае гэта. І нікуды яна не дзенецца. Ёй прыйдзецца саступіць яму. Капітуляваць па ўсіх франтах і на галоўным баявым кірунку таксама. Ды толькі правільна падабраць гэты момант трэба! Вось у чым уся складанасць. Як яго вызначыць гэты правільны момант?! Таму яшчэ не час. Пакуль што ў ход трэба запускаць іншыя довады, пакуль усе яны не скончацца, тыя іншыя. Можа і яны спрацуюць.

— Ну і скажы мне, чаго ты баішся? Ты што думаеш, я змагу цябе кінуць пасля?! Я ж без цябе не магу дыхаць!

— Не, ты што! Я не сумняваюся ў табе. А калі б і кінуў, дык вецер у плечы. Даганяць не стану.

— Не станеш?

— Не дачакаешся. Нават калі ты адзін на свеце з мужыкоў застанешся, услед не пабягу.

— Ганаровая такая?

— Цану сабе ведаю.

— Ну, хопіць! Ужо сварыцца пачынаем. Ну, нечага ж ты баішся?

Васіль прытуліў яе да сябе. Яна і сама прытулілася. Добра ёй так у яго абдымках, як зімой на печы. Ды і праў ён. Вось нешта яе праклініла, як механізм у зламаным гадзінніку, і ўсё на гэтым. Яе сяброўка Янька Ганусевіч зусім такімі рэчамі не грузіцца. Жыве са сваім Лёшкам як жонка з мужам. Толькі тайна. Каб бацькі не даведаліся, а то заб'юць і Яньку, і Лёшку, і ні ў чым не вінаватых бацькоў Лёшкі ў дадатак. А яна баіцца нечага, хоць яе Васіль — гэта не Янькін Лёшка. Васіль яе кахае. Васіль надзейны, як ланцуг, на якім бычкоў наважваюць. Уся справа ў ёй. Мама, настаўніца вясковая, так выхоўвала. Ды і кніжак зашмат начыталася. А там, у тых кніжках, жанчыны чыстыя, неразбэшчаныя, цнатлівыя... А мужчыны ўсе як мае быць джэнтльмены... Адна бяда з тых кніжак...

— Проста я баюся, што пашкадую. Не ведаю чаму, але пашкадую, — прашаптала яна.

— А гэтага дык не пашкадуеш, што кінеш мяне чарговай раніцай у такім гаротным стане ды на нервах? Мяне ты хоць раз шкадавала? А мне, не спаўшы якую ўжо ноч, за руль сядаць трэба без належнай падзякі!

— Можа, і гэта... пашкадую!

— Ну дык, можа, лепш зрабіць і шкадаваць, чым не зрабіць і шкадаваць.

— А мне здаецца, што шчасце не з той жанчынай, з якой хочацца пераспаць, а з той, з якой хочацца прачнуцца.

— Ну дык, як мне з табой прачнуцца, калі мы нават не спім разам?!

* * *

Васіль ужо даўно заблытаўся ў моцным павуцінні мудрагеліста сплеценых пачуццяў да Алены. І вырвацца адтуль не рабіў аніякіх спроб. А навошта, калі яго лёс абдарыў такім пачуццём? А што яно жыло ў яго сэрцы, тое пачуццё, хлопец быў пераканаы цалкам, як у тым, што, калі спозніцца чарговы раз на працу, нажыве непрыемнасцей ад калгаснага начальства.

Яму здавалася, што больш, чым сваё маладое жыццё, кахае Алену. Хоць пра жыццё ў яго ўзросце яшчэ не задумваюцца ў тым кантэксце, у якім яно пазней само пра сябе думае, але гэты недахоп праходзіць усё з тым жа ўзростам. Таму, можа, і параўнанне некарэктнае. І ўсё ж! Каханне яно і ёсць каханне! Яно вышэй за ўсё! Яно даецца звыш! І гэта ўжо не Васілёвы няспелыя думкі. Ці, дакладней, не толькі ягоныя. Васіль чытаў пра гэта ў нейкай разумнай кніжцы, як служыў у Савецкай Арміі. Цікавая. Толькі забыўся, як называецца. А то б Алене параіў пачытаць.

Каханне ўзяло яго ў палон адразу, як ён прыйшоў з той Савецкай Арміі. Бо, як яго забіралі туды, нібыта барана на бойню, вясковае дзяўчо Аленка Міленя, што жыла недалёка ад яго хаты, была яшчэ смаркатай школьніцай, якую хлапчукі-аднагодкі цягалі за густыя косы і больш нічога ад яе не хацелі. А вось як вярнуўся ды ўбачыў яе косы зноў, то адразу захацеў на іх павесіцца. Абы толькі адчуваць іх блізкасць. А як дзяўчына аднойчы распусціла тыя косы перад яго вачамі, то вешацца адразу перадумаў. Захацелася жыць доўга, шчасліва і абавязкова з уладальніцай гэтых валасоў.

Жаданне толькі ўзмацнілася, як заўважыў, што цяпер усе знаёмыя і незнаёмыя хлопцы ад Алены нечага хочуць, і не цяжка было здагадацца чаго. Ды што там хлопцы! Як яна ішла па вёсцы, то не было аніводнай істоты мужчынскай плоці, якая б не азірнулася і не паглядзела ёй услед. Усе глядзелі, ад старых дзядоў, маладых бычкоў, рознаўзроставых жарабцоў і да сабак усіх парод, уключаючы беспародных.

Ці то жартавалі людзі, ці то праўду казалі, што адзін сабака так загледзеўся, што забыўся, што трэба есці і піць. Так і стаяў у задуменні, пакуль не здох з голаду на тым самым месцы, дзе яго сабачыя вочы агледзелі дзявочыя контуры з тылу. Яго пасля цётка Ганна за хвост адцягнула і выкінула ў роў. А можа, ён здох ад старасці, той сабака. Хто яго ведае. У сабак таксама бывае старасць, як у людзей, і яны таксама не бессмяротныя.

А яшчэ кажуць, што і сэрца нейкага заезджага начальніка, што інспектаваць іх калгас прыязджаў, таксама не вытрымала, як яго вочы за Алену зачапіліся. Машына хуткай медыцынскай дапамогі забрала і павезла яго ў раённы шпіталь праз некалькі хвілін, як глянуў на Міленю. Але ці выжыў той небарака, ці адправіўся ўслед за тым сабакам, вясковая гісторыя замоўчвае. У вёсцы ўсё сакрэт.

— Вось гэта дзеўка, гэтая Ленка Міленя! — казалі старыя. — Бяда таму, хто яе пакахае. Ну а ёй якая бяда! О-ё-ёй! Такія прыгожыя шчаслівымі не бываюць.

Вось так усе Васілёвы планы на жыццё, якія складаў у арміі, пайшлі кату пад хвост і не вярнуліся назад. І Сібір, куды запрашалі хлопцы з адной з ім роты, што з тае Сібіры родам і добра ведаюць, дзе можна там хутка і шмат зарабіць на золаце, і лепшая ў вёсцы хата, якую ён паставіць збіраўся на заробленыя там грошы, і вучоба, каб выбіцца ў людзі і тым парадаваць бацькоў, і гонар бацькоў за сына, і шмат чаго яшчэ — усё накрылася медным тазікам у адно імгненне. Ленка замяніла сабой усе планы і мары.

А вучобу яму нават раённае начальства прапаноўвае. Не ўсім яны прапаноўваюць такое, але як Васіль вярнуўся з войска, то менавіта на яго звярнулі ўвагу. Бо хлопец быў у складзе сёмай гвардзейскай паветрана-дэсантнай Чырвонасцяжнай ордэна Кутузава дывізіі, якая дыслакавалася ў Прыбалтыйскай ваеннай акрузе ў горадзе Каўнасе. Дык вось яна ў тысяча дзевяцьсот шэсцьдзясят восьмым годзе разам з шэрагоўцам Васілём Гудзеем была адпраўлена ў Чэхаславакію, каб супакоіць антысавецкіх элементаў, якія ўсю Прагу на вушы паднялі. Адтуль Васіль вярнуўся з медалём і яшчэ большым антысаветчыкам, чым як у армію адыходзіў, і нават большым антыкамуністам, чым тыя чэхі, якіх яго супакойваць камуністы і адправілі. Савецкія камуністы адправілі, пра якіх дзяды Васіля яшчэ з малых гадоў яму казалі, што гэта не людзі.

Васіль з маладой фанабэрыстасцю то хваліўся перад тымі дзядамі і іншымі вяскоўцамі сваёй службай у дэсанце і палётам у Чэхаславакію. Расказваў, што як іх у арміі на Прагу везлі самалётам, то напхалі салдат у той самалёт як селядцоў у бляшанку. А ён стаяў блізка да пілота, бо дзверы не закрываліся, так шмат іх было. І яго так матляшыла, што пілот баяўся, каб не прыдушыў Васіль яго, як будзе падаць. Ну, дык дастаў недзе над Варшавай цынкавае вядро з гермаадсека і прапанаваў яго Васілю.

— Навошта мне вядро?! Ды я ворагаў не баюся, — пачырванеў Васіль ад сораму. — А ў прыбіральню я схаджу яшчэ ў Каўнасе, — патлумачыў пілоту.

— Гэта табе замест табурэткі, — зарагатаў пілот.

Так Васіль і завітаў у Прагу, седзячы на цынкавым вядры, на якое ўсеўся над самой Варшавай. Ох і любіў ён хваліцца гэтым. Асабліва пры Алене. Ну што ты, герой, з медалём, і, у адрозненні ад іншых калгаснікаў, за мяжой пабываў. А хто яшчэ мог гэтым пахваліцца?! Ну, а калі яшчэ так маляўніча патрапіў у Еўропу, у самалёце, на цынкавым вядры дном угору, ну то сапраўды ёсць пра што распавесці.

Вяскоўцы то пасмейваліся з аповеду, пыталіся, а навошта ў самалёце цынкавае вядро. А Васіль тады ганарова адказваў:

— Пасядзелі б суткі ў самалёце пад прыцэлам непрыяцеля, тады і даведаліся б, навошта там цынкавае вядро.

І Алене любіў распавядаць пра заграніцу.

— Там яны сабе такую жытуху зрабілі, што нам тут і не сніцца, — казаў. — І гаворачы, што каб не мы, гады савецкія, то і яшчэ лепшую зладзілі б.

А яшчэ казаў, што, каб ведаў, калі служыў у арміі, якая Алена стала, то навёз бы ёй адтуль падарункаў — на ўсё жыццё хапіла б і дзецям засталося б. Бо распавядаў, як што купіць у чэхаў хацелі савецкія салдаты, то чэхі ім казалі:

— Акупанты ўсё задарма бяруць. А вы акупанты. То бярыце без грошай.

(працяг будзе)

Віктар САЗОНАЎ

# Цікавае і разнароднае мастацтва ў Гайнаўскім доме культуры

На Гайнаўшчыне жыве многа здольных мастакоў-аматараў і ў Аглядах непрафесійнага мастацтва Гайнаўскай зямлі штогод прымае ўдзел многа асоб. Рыхтуюць яны на агляд многа цікавых прац — жывапіс, рысункі, графіку. Прызнанне ў час аглядаў здабываюць працы, якія прадстаўляюць пушчанскія краявіды, матывы вясковага жыцця, партрэты і нацюрморты. Паяўляецца штораз больш прац, на якіх іх аўтары паказваюць свае эмоцыі і ўнутраныя перажыванні. Нашы непрафесійныя творцы штораз больш гуляюць колерамі і разгортваюць свае ўмеласці ў галіне разьбы. Большае колькасць цікавых работ і павышаецца іх мастацкі ўзровень, аб чым паведамляюць прадстаўнікі журы гайнаўскага агляду.



Мастакі, члены журы, госці і арганізатары агляду сабраліся на фоне выставы да супольнага здымка

У сёлетнім XXVI Аглядзе непрафесійнага мастацтва Гайнаўскай зямлі прынялі ўдзел 30 мастакоў з Гайнаўскага павета, якія заявілі ажно 83 працы. Камісія, у якой працавалі мясцовыя мастакі — жывапісец, графік і разьбяр Віктар Кабац, жывапісец і графік Іаанна Кярсноўская і скульптар Юры Івацік, 11 непрафесійным творцам прызначыла ўзнагароды, а чарговым 11 — вылучэнні. На конкурсную экспазіцыю ў галерэі ГДК кваліфікаваны былі 62 работы, якія можна будзе глядзець да 18 студзеня. Адкрыццё выставы і падвядзенне вынікаў XXVI Агляду непрафесійнага мастацтва адбылося 6 снежня. Сабраных прывітала мастацкі кіраўнік ГДК Ядвіга Лях-Кучкін. Публіка мела магчымасць паслухаць канцэрт у выкананні Зосі Філіпюк і Аляксандры Волчык са Студыі эстраднай песні ГДК. Старшыня Рады горада Гайнаўка Валянціна Пятрочук адзначыла высокі мастацкі ўзровень нестандартных прац, якія паказваюць прыгожасць рэгіёна Белавежскай пушчы і адлюстроўваюць унутраныя перажыванні іх аўтараў.

— Мы, як члены камісіі, бачым рост мастацкага ўзроўню нашых непрафесійных мастакоў. Цяпер няма вялікай розніцы паміж работамі мастакоў прафесіяналаў і часткі аматараў. Можна сказаць, што ў часткі непрафесійных мастакоў Гайнаўшчыны вельмі добры варштат працы. Мяркую, што паўстала ў нас гайнаўская школа непрафесійнага мастацтва. На яе ўзнікненне мела ўздзеянне старшая інструктар па справах мастацтва нашага дома культуры Зінаіда Якуць. Вядзе яна заняткі па мастацтве і паспяхова вучыць розным тэхнікам выконвання прац. Спадарыня Якуць фарміруе таленты здольных жыхароў Гайнаўшчыны, частка якіх пастаянна прымае ўдзел у аглядзе непрафесійнага мастацтва. Паколькі жывем каля прыгожай Белавежскай пушчы, удзельнікі агляду ахвотна адлюстроўваюць яе козыры на сваіх працах. Аднак паказванне дэталяў пушчанскай прыгажосці абмяжоўвае паказванне ўнутранага свету творцаў. Добра, што частка мастакоў Гайнаўшчыны робіць стаўку на паказанне на работах сваіх эмоцый, смутку, турбот і перажыванняў, але таксама і радасці. Прэзентуючы краявіды, можна таксама паказаць, як мы індывідуальна іх бачым, успрымаем акружаючы нас свет, — сказаў Віктар Кабац, які вёў заняткі па мастацтве ў Музеі і асяродку беларускай культуры ў Гайнаўцы.

Статуэткі агляду, дыпломы і ўзнагароды для пераможцаў уручылі старшыня Рады горада Гайнаўка Валянціна Пятрочук, намеснік старасты Гайнаўскага павета Іаанна Койла, дырэктар ГДК Расціслаў Кунцэвіч і члены журы. Усе ўдзельнікі агляду атрымалі дыпломы, падарункі і буклеты, прысвечаныя агляду. Пазней быў час на наведванне выставы непрафесійнага мастацтва. Удзельнікі агляду маглі паразмаўляць з членамі камісіі на тэму свайго варштату працы.

— На аглядзе бачым разнароднасць прац, зацікаўленняў і ўражлівасці іх аўтараў, а таксама індывідуальны падыход да мастацтва. Мастакі-аматары гэта прадстаўнікі розных прафесій. Спалучае іх пошук спасабаўвыяўлення сваіх эмоцый і пачуццяў мастацтве, — заявіла старшая інструктар па справах мастацтва ГДК Зінаіда Якуць, якая была адказная за правядзенне агляду.



Януш Кулеша

На выставе прэзентуецца многа жывапісу. Самыя лепшыя карціны былі высока ацэнены членамі конкурснай камісіі. Лаўрэатам першай узнагароды стаў Станіслаў Жывалеўскі, працы якога выклікаюць дыскусіі, а нават спрэчкі.

— Станіслаў Жывалеўскі малюе на салідным узроўні, а частку сваіх работ выконвае ў жанры сатыры, правакуючы да дыскусіі. Так зрабіў на акрылавай рабоце з людскімі плодамі з абортаў ва ўмяшчальніку на смецце, вакол якога бегаюць пацукі. За гэтую працу, якая выклікае дыскусію, наша камісія прызначыла яе аўтару першую ўзнагароду, — заявіў Віктар Кабац.

— Можа і не падыходзіць тэма маёй узнагароджанай працы на гэтую выставу, аднак я хацеў звярнуць увагу на праблему абортаў і таго, што дзеецца пазней з неданошамі плодамі, — сказаў Станіслаў Жывалеўскі.

— Я выканаў некалькі прац на конкурс. Камісія ўзнагародзіла маю алейную карціну, на якой намаляваў восеньскі асот, гуляючы святлом і яркімі колерамі, — заявіў аўтар другой узнагароды ў катэгорыі жывапісу Станіслаў Паскробка.

— Восеньскі краявід каля ракі я прадставіла на дзвюх карцінах выканых сухімі пастэлямі. Я займаюся ў майстэрні Зінаіды Якуць і многаму ад яе навучылася. Яшчэ раней я вучылася гуляць колерамі ад Лёніка Тарасэвіча, з якім першы раз сустрэлася ў палове дзевяностых гадоў у Гайнаўскім белліцэі, — сказала Малгажата Невядомская, лаўрэатка трэцяй узнагароды ў катэгорыі жывапісу.

— Я на агляд выканаў жывапіс і рысункі постацей. Ад нейкага часу атрымліваю ўзнагароды за партрэты маёй дачкі. Сёлета атрымаў першую ўзнагароду ў катэгорыі рысунку за навейшы партрэт маёй васьмігадовай дачушкі з трусом, — заявіў Януш Кулеша.



Камісія ўзнагародзіла Станіслава Паскробку

— Да ўзроўню рысавання Януша Кулешы ніхто ў нашым рэгіёне не можа прыраўняцца. Я вучылася рысаваць на занятках Зінаіды Якуць. Пасля многаму я навучылася ад Юрка Жукоўскага, які, на жаль, ужо не жыве. Рада, што атрымала другую ўзнагароду ў катэгорыі рысунку за партрэт бабулі, якая чакае сына, — гаварыла Моніка Васільеў.

Трэцюю ўзнагароду камісія прызначыла Эміліі Лягутка за рысунак птушкі.

— Я карыстаюся мяшанай тэхнікай і атрымаў узнагароду за працу, на якой крыху абстрактна паказваю свае эмоцыі і адносіны да акружаючага мяне свету, — заявіў Яцак Некраш, які як адзіны атрымаў узнагароду ў катэгорыі іншых тэхнік.

— Я, так як рабіў раней, свае скульптуры малюю, паколькі колер дапамагае паказаць больш. Рады, што атрымаў першую ўзнагароду за трыо музыкантаў, — сказаў скульптар Міхал Коц. Вядомы ён у Гайнаўцы перш за ўсё як аўтар вялікай скульптуры ахоўніка Белавежскай пушчы, якая стаіць на кругавой развязцы недалёка ад выезду з Гайнаўкі ў напрамку Кляшчэль.

Другую ўзнагароду атрымаў Мячыслаў Дудзін за скульптуру мужчыны, а трэцюю ўзнагароду камісія прызначыла Анатолю Алексеюку за барэльеф птушкі, якая корміць птушанят.

— Скульптуры на нашым аглядзе нямнога, але яна цікавая і паказвае здольнасці непрафесійных разьбяроў Гайнаўшчыны, — гаварыў член камісіі, скульптар Юры Івацік.

Узнагароджаныя разьбяры ўдакладнілі, што іх работы ўзнагароджваюцца таксама на беластоцкіх аглядах непрафесійнага мастацтва.

— На выставе я ўбачыў цікавую скульптуру. Вядомым разьбяром у нас з'яўляецца Мікола Тарасюк, які сваю размаляваную скульптуру прэзентаваў, між іншым, на выставе ў Музеі малой айчыны ў Студзіводах, — сказаў разьбяр Анатоль Туркоў з Камянца, якога работы вядомыя ў Польшчы. Прыбыў ён на падвядзенне вынікаў агляду, паколькі якраз прымаў удзел у разьбярскім пленэры ў Гайнаўскім белмузеі.

Узнагароду ў катэгорыі творцаў з абмежаваннямі атрымаў Барташ Шпаковіч з Майстар-класаў па працатэрапіі ў Гайнаўцы. З дапамогай мамы і свайго апекуна Іаанны Плевы ўдакладніў ён, што на сваіх працах, гуляючы моцнымі колерамі, паказвае свае эмоцыі і ўнутраны свет.

Тэкст і фота
**Аляксей МАРОЗА**

1 ☞ працяг

# «Дэбют» XXII

каваны ўсе тэксты. Я на працягу працы пры конкурсе бачу эвалюцыю ў добрым напрамку. Вядома, мусіць гэта мець падпор таленту. Друк твораў у „Ніве” гэта вялікая ўзнагарода і набілітацыя. Я памятаю свой дэбют у „Ніве” ў 1970 годзе, пасля якога я проста лунала над Варшавай. Так што віншую ўдзельнікаў і кажу, што гэты выпуск быў вельмі добры. Асабліва багаты быў плён творцаў другой групы — вучняў сярэдніх школ і дарослых. Кожная падборка была вартая вылучэння, на аднолькавым, добрым узроўні, вартым друку, з надзеяй на творчы працяг.

Чарговы раз шматлюдна (аж 19 асоб) прыслалі свае літаратурныя спробы вучні з міхалоўскай школы (сем гадоў таму, на XVI „Дэбюце” выступіла была толькі адна вучаніца); вялікая тут заслуга настаўніцы Эміліі Грыка, якая ўмее заахвоціць вучняў ды і дапільнуе, каб яны паспелі і не забыліся выслаць твораў на конкурс. Часам вялізны пакунак з засакрэчанымі творамі вучняў варта прывезці проста ў рэдакцыю. Бывае, што пошта ўкідае ліст у іншую паштовую скрынку ўжо ў Беластоку, і творы праляжаць там амаль два тыдні, пакуль трапяць у рэдакцыю (гэтак здарылася з лістом з творамі пані Веры з Гайнаўкі).

Творы з «Дэбюту», неабавязкова ўзнагароджаныя ў якімсь выпуску конкурсу, становяцца народным песнямі, як вершы Мікалая Варанецкага з Альхоўкі (III месца) — спяваюць іх між іншым «Цаглінкі» і «Нараўчанкі», ці пушчанскай Валянціны Мядзведзь, цяпер з Беластока (гурт «Лайланд»). З ліку ўдзельнікаў конкурсу „Дэбют” на працягу гадоў выйшлі аўтары, у якіх ёсць ужо свае кнігі, як, напрыклад, Юрка Буйнюк, Кацярына Сянкевіч, Багдан Дудко, Вера Русіновіч, Вера Радзіванюк, Кастусь Целушэцкі. Некаторыя ўдзельнікі сталі журналістамі, філолагамі. Але кожны ўдзельнік нашага конкурсу з’яўляецца пераможцам — ягоныя родныя трапныя словы пра пачуцці, імгненні жыцця, душу беларуса дакладваюцца каштоўнай цаглінкай да будовы нашага беларускага дома, не толькі на Падляшшы. А нашы народныя пісьменнікі на чарговых спатканнях, завяршаючых конкурс, чула вітаюцца, абдымаюцца, цалуюцца — як сваякі.


Фота Міры Лукшы

■ Юлія Маргарыта Бяганская і Дар’юш Жукоўскі – пераможцы

Пераможцамі сёлетняга выпуску «Дэбюту» з’яўляюцца — у першай групе — сёстры Марта (I месца) і Магдаліна (III) Драздоўскія з Міхалоўскай школы, Наталля Кіндзюк з Лешукоў Нараўчанскай школы (II месца); вылучаны творы Алівіі Козёл з Міхалова, народжанай у Лондане. У «дарослай» групе ў прозе перамагла студэнтка права з Васількова (жыве там з прадзедам) Юлія Маргарыта Бяганская (выпускніца Гайнаўскага белліцэя), на другім апынулася Ірэна Лукша (таксама выпускніца Гайнаўскага белліцэя, якая працуе нянечкай у гайнаўскай бальніцы), на трэцім — з выдатным апавяданнем — настаўнік-пенсіянер ды спявак з Альхоўкі Нараўчанскай гміны Мікалай Варанецкі. Сярод паэтаў рэй вёў Дар’юш Жукоўскі з Велішэва, другая з творамі на падляшскай гаворцы вёскі Катлоўкі была Вера Русіновіч з Нарвы, а на трэцім апынуліся вершы даўняй удзельніцы «Дэбюту» (яшчэ ад пачатковай школы ў Нараўцы), вучаніцы Гайнаўскага белліцэя Уршулі Марчук.

У арганізацыі чарговага выпуску конкурсу «Дэбют» «Ніву» падтрымалі Міністр унутраных спраў і адміністрацыі Польшчы, Маршалкоўская ўправа Падляшскага ваяводства, Саюз беларускіх пісьменнікаў і Нараўчанская гміна.

❖ Міра ЛУКША

---



Беларусам і іх дзецям адназначна не хапае дзіцячых часопісаў. Сёння ў Беларусі такіх два — „Вясёлка” (для больш старэйшых) і „Буся” (для зусім маленькіх). Іх выдае дзяржава, якая не вельмі клапоціцца пра павелічэнне падобных выданняў на беларускай мове. З тых прычын ніякай канкурэнцыі гэтыя часопісы не маюць, што не можа адбіцца добрым чынам на іх якасці.

Час ад часу ў беларускім грамадстве ўзнікалі ініцыятывы па стварэнні дзіцячых часопісаў, аднак справа не ішла далей за некалькі нумароў. Перш за ўсё з-за фінансавых праблем. У выніку для маленькіх беларусаў, калі іх бацькоў не задавальняюць „Вясёлка” з „Бусяй”, і няма часопісаў.

Але вось на прасторы Байнэту з’явілася новая ініцыятыва стварэння беларускамоўнага перыядычнага выдання для дзяцей. Імя яму — „Жэўжык”. І ў электронным выглядзе на яго можна паглядзець, зайшоўшы на сайт **http://zheuzhyk.tilda.ws.**

„Пазнавальна-забаўляльны часопіс „Жэўжык”, — так акрэсліваюць выданне яго стваральнікі. „Сучасны, добра зроблены часопіс — гэта адзін з рэальных спосабаў зацікавіць дзяцей беларускай мовай. Якраз на такую думку робіць стаўку наша каманда, што дзевяць месяцаў таму стварыла анлайн-часопіс „Жэўжык”, — тлумачаць яны на галоўнай старонцы сайта свае дзеянні і жаданні.

Згодна інфармацыі на сайце, часопіс разлічаны на беларускамоўных дзяцей 6-10 гадоў; на рускамоўных дзяцей, якія вучацца ў школах з рознымі мовамі навучання, а таксама на бацькоў, якія жадаюць, каб іх дзецям было цікава вывучаць родную мову.

Калі кранацца выходных даных, то „Жэўжык” — каляровы часопіс на 32 старонкі, і ў свет ужо выйшла чатыры нумары: „Гуканне вясны”, „Вялікдзень”, „Дрэвы” і „Водная сістэма Беларусі”. „Кожны нумар прысвячаецца пэўнай тэматыцы, але раскрываецца яна менавіта ў „беларускім” святле. Што ёсць важнай адметнасцю „Жэўжыка”!” — запэўніваюць стваральнікі часопіса.

Паводле іх, перыядычных друкаваных выданняў для дзяцей па-беларуску выходзіць зусім мала ва ўсім свеце. „А пазнавальна-забаўляльных часопісаў для малодшых школьнікаў амаль няма. Без такіх выданняў беларускім дзецям цяжка і часта нецікава развіваць свае навыкі маўлення, чытання і пісьма на роднай мове. Таму вельмі важна зрабіць і друкаваную версію „Жэўжыка”, каб ён стаў больш даступным для маленькіх чытачоў”, — лічаць стваральнікі часопіса, тым самым прапануючы ахвяраваць якую-кольвечы суму грошай. А каб гэта зрабіць, трэба выйсці на адпаведны сайт, куды „перакідвае” карыстальніка, калі ён клікне мышкай на слова „ахвяраваць”. Агульная сума, якую патрэбна сабраць, каб ён пачаў выходзіць у папяровай версіі — 2500 еўра. За 16 дзён была сабрана дзясятая частка грошай.

Якія ж планы маюць стваральнікі, калі ўрэшце збяруць патрэбную суму? „Выдаваць шэсць нумароў часопіса ў год, якія будуць выкладацца ў сеціве і прадавацца друкаваным накладам, ствараць цікавыя забаўкі і заданні, актыўна камунікаваць з аўдыторыяй і прапагандаваць любоў да роднага слова сярод дзятвы”, — адказваюць яны на такое пытанне.

Ніжэй на галоўнай старонцы можна віртуальна пазнаёміцца з рэдакцыяй „Жэўжыка”. Гэта Наталка Дзінкель (аўтарка ідэі часопіса і забавак, рэдактарка, юрыстка па адукацыі), Марына Кузьмянкова (аўтарка забавак, памочнік рэдактаркі, выкладчыца англійскай мовы) і Волька Жарнасек (аўтарка тэкстаў, краязнаўца-аматар, журналістка).

❖ Аляксандр ЯКІМЮК

---



Дата з Календара

# 100 гадоў з дня нараджэння Кастуся Мерляка

Беларускі грамадска-культурны, рэлігійны дзеяч, эміграцкі дзеяч БНР Кастусь Мярляк нарадзіўся 25 снежня 1919 г. у вёсцы Дзетамля (сучасны Навагардскі раён). Пра раннія гады яго жыцця вядома мала, трэба сказаць, што ў розных крыніцах яго прозвішча фігуруе таксама з націскам на першы склад — Мерляк. Вядома, што вучыўся ён у Беластоку, у 1940 г. скончыў курсы інспектараў Дзяржаўнага банка БССР. Пасля далучэння Заходняй Беларусі да СССР працаваў у Карэліцкім аддзяленні Дзяржбанка бухгалтарам і крэдытным інспектарам. Там яго і заспела вайна.

У час Другой сусветнай вайны Кастусь Мярляк працаваў у Навагрудку ў Беларускай народнай самапомачы. З канца 1943 г. — інтэндант эскадрона Барыса Рагулі. У жніўні 1944 г. быў у батальёне „Дальвіц”. Пазней нямецкім абверам закінуты ў Італію, здаўся ў палон да амерыканцаў і быў інтэрнаваны ў лагер, адкуль неўзабаве ўцёк. У 1947 г. Кастусь Мярляк апынуўся ў Аргенціне, быў заснавальнікам і першым старшынёй Згуртавання беларусаў у Аргенціне. Паводле даследніка беларускай эміграцыі Алега Гардзіенкі „да гэтага там існавала шаснаццаць беларускіх суполак, але яны ўсе былі пад уплывам савецкай амбасады. Кастусь Мярляк стварыў незалежную антыкамуністычную беларускую арганізацыю”. З 1948 г. ён узначальваў таксама прадстаўніцтва Рады БНР у гэтай краіне.

У 1954 г. Мярляк пераехаў у Нью-Ёрк, дзе адразу ж актыўна ўключыўся ў жыццё беларускае грамады. Прыгадвае дырэктар Беларускага інстытуту навукі і мастацтва ў Нью-Йорку Вітаўт Кіпель: „Якраз у той час ішлі пошукі, каб купіць беларускі цэнтар, і спадар Мярляк вельмі прылажыўся да таго, каб набыць царкву ў Брукліне (...). Мы з ім некалькі разоў былі ў Вашынгтоне ў прграме паняволеных народаў. І ўвесь час, дзе трэба была палітычная прэзэнтацыя беларуская, з Кастусём Мерляком даводзілася вельмі часта выступаць. Гэта быў вельмі дзейны чалавек, і ўклад ягоны ў грамадзкае жыццё беларусаў у Амэрыцы, безумоўна, быў значны”.

У канцы 1956 г. Мярляк распачаў супрацу з Цэнтральным разведвальным упраўленнем ЗША. На той час ён быў адзіным агентам гэтай спецслужбы ў асяродку беларускай эміграцыі ў ЗША. З 1959 да 1964 года Мярляк займаў пасаду старшыні Галоўнай управы Беларуска-амерыканскага задзіночання (БАЗА). Пасля канфлікту і зыходу з БАЗА — старшыня Беларуска-амерыканскага аб’яднання ў Нью-Йорку. Быў актыўны ў палітычнай і грамадска-рэлігійнай дзейнасці.

Пасля атрымання Беларуссю незалежнасці Мярляк прыязджаў на радзіму і многіх уразіў сваёй непасрэднасцю. Тагачасная старшыня замежнай камісіі Беларускага Народнага Фронту Валянціна Трыгубовіч была разам з ім па ягонай настойлівай просьбе на сустрэчы з кіраўніком КДБ Эдуардам Шыркоўскім. Яна расказала наступнае: „Пытанні ў яго былі канкрэтныя — як цяпер ставіцца незалежная Беларусь да тых эмігрантаў, якія змушаныя былі ў 1944 годзе пакінуць родную зямлю? І адказы былі, што эмігрантам больш няма чаго баяцца, што ўсе, хто не здзейсніў крывавых злачынстваў, маюць права вольна наведваць бацькаўшчыну ў любы час”.

У 1992 г. у Нью-Йорку выйшла кніга ўспамінаў пад назвай „Дзейнасьць Кастуся Мерляка на эміграцыі: праніклівасьць і практычны падыход”. У сярэдзіне 1990-х гадоў Мярляк адышоў ад актыўнай грамадскай дзейнасці. Памёр ён 25 лістапада 2008 года ў Нью-Йорку. Пахаваны на беларускіх могілках у Іст-Брансьвіку (штат Нью-Джэрсі).

❖ Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ



# Адзіны шавец у гміне

Ян Сахарчук — ураджэнец Новага Ляўкова Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета. Яго бацькі Лявон і Яўдоля займаліся сельскай гаспадаркай. Іх сын Ян зараз адзіны шавец у гміне. Мае закончаную пачатковую школу ў Старым Ляўкове. Шавецтву навучыў яго Міхал Байко, шавецкі майстар з Белавежы.

Спадар Ян быў актыўным прафесіяналам на працягу больш трыццаці гадоў. Шыў ды рамантаваў розныя боты. Меў тры шавецкія машыны, у тым ліку вельмі добрую нямецкай маркі „Singer”. Шыў і боты-афіцэркі, валёнкі з лямцу, скураныя сумкі і партманеткі, кашалькі. Заказаў на новыя боты на любую мерку было шмат. Новаляўкоўскі шавец належаў да Цэха розных рамяствоў у Гайнаўцы. Цэх надзяляў чаляднікаў спецыяльна выраблenай цялячай скурай, тоўстай гумай на падэшвы ботаў ды клеем, жалезнымі і драўлянымі цвічкамі.

Ян Сахарчук мае дыплом шавецкага чаляднік і пячатку. Меў ён вучняў. З Новага Ляўкова вучыўся ў яго Андрэй Пучынскі, які пасля навукі шыў боты ў арцелі ў Гайнаўцы і зараз з'ехаў з Ляўкова да сястры-ўдавы ў Элк. Цяпер спадар Ян пенсіянер і ўдавец, мае свае накопленыя гады і сілы штораз менш, прыйшла старасць. З дапамогай яму ў жыцці-быцці прыходзіць даязджаючая апякунка. Ні адзін з двух яго сыноў не стаў перайманьнікам ягонай прафесіі. Яны выехалі ў горад і працавалі за межамі нашай краіны.

Тэкст і фота
**Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**

# Ян Мордань: Закон быў на маім баку

Кожны грамадзянін мае права весці відэа- ці гукавы запіс пасяджэнняў органаў мясцовага кіравання. Так вырашыў суддзя акруговага суда ў Бельску-Падляшскім. Жыхара Гацькоў Яна Морданя, што ў гміне Бельск-Падляшскі, апраўдалі. Ён меў права запісваць мабільным тэлефонам пасяджэнне супольных камісій Рады гміны ў Бельску-Падляшскім.

Гаворыць Ян Мордань:

— Суд у Бельску-Падляшскім апраўдаў мяне з такім аргументам, што ўсё было згодна з законам. І толькі паліцыянты невядома чаму скардзіліся. Таму што ўсе праўныя законы былі за мной, кожны грамадзянін можа прыйсці на пасяджэнне радных і рабіць відэа- і гуказапіс. Так што невядома чаму мяне цягалі сюды.

Нагадаем, што ў першай інстанцыі Яна Морданя аштрафавалі за парушэнне парадку вядзення сесіі. Парушэнне нібыта выявілася ў тым, што ён фіксаваў ход парамоў на мабільны тэлефон. Яна Морданя ў судовым працэсе падтрымала грамадзянская сетка Watchdog Polska, якая даслала ў суд „меркаванне сябра суда”, у якім звярнула ўвагу на тое, што Гмінная ўправа ў Бельску-Падляшскім парушыла асноўныя грамадзянскія правы Яна Морданя, забараняючы запіс пасяджэння.

racyja.com


http://agnieszkaprochowicz.pl

# Сяргей Нічыпарук

## уганараваны Кавалерскім Крыжам Ордэна Адраджэння Польшчы

Сяргей Нічыпарук, уласнік агратурыстычнага комплексу „Сяло Буды” на Падляшшы, уганараваны Кавалерскім Крыжам Ордэна Адраджэння Польшчы. У прэзідэнцкім палацы адбылася ўрачыстасць уручэння Ордэнаў Адраджэння Польшчы былым актывістам дэмакратычнай апазіцыі ў Польшчы. Ордэны ад імя прэзідэнта Польшчы Анджэя Дуды ўручыў дзяржсакратар Анджэй Дэра. Ордэн Сяргею Нічыпаруку прызначаны за асаблівыя дасягненні ў дзейнасці на карысць дэмакратычных перамен у Польшчы, за дасягненні ў прафесійнай і грамадскай працы для сваёй краіны ў якасці старшыні кола Салідарнасці індывідуальных гаспадароў у Дубічах-Царкоўных.

racyja.com

# Адгаданка Адгаданка Адгаданка

**1.** опера Жоржа Бізе, **2.** ігральны дом, напрыклад, у Лас-Вегас, **3.** старажытны горад на Шаўковым шляху ў сучасным Туркменістане (Merv), **4.** горад з Падляшскай операй і філармоніяй, **5.** Герман, другі пасля Гагарына касмічны лётчык, **6.** тонкі слой ледзяных крышталяў на ахалоджанай паверхні, **7.** раённы цэнтр Гродзеншчыны на рацэ Івенцы, **8.** спецыяліст па лячэнні сардэчна-сасудзістых захворванняў.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — народная пагаворка.

**(ш)**

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 1 | | 2 | | | |
| | | | | | | | | |
| | | | 3 | | | | | |
| | | | | | | | | |
| 4 | | 5 | 6 | | 7 | | | 8 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 48 нумара**

Аплявуха, Еўклід, калій, радня, эму, воін, цыбуля, абаронца, лявоніха, Азія, дзік, герц.

Рашэнне: **У вялікай рацэ водзіцца вялікая рыба**.

# 29.12 — 04.01

**(22.03. — 20.04.)** Памятай, што рэдка калі мэта апраўдвае сродкі. Пільнуйся, каб сваімі нахабнымі паводзінамі не нарабіць сабе ворагаў. Прадбачваюцца прафесійныя поспехі; перавагу можаш мець дзякуючы веданню замежных моў. 1-3.01. кожная перашкода будзе пераможана. У студзені абароніш сваю пазіцыю.

**(21.04. — 21.05.)** Пачнеш пашыраць свае гарызонты, здабываць новыя веды аб свеце. Святкаваць варта за мяжой. Хоць у гэты тыдзень ты чамусьці скупаваты. У студзені ўсё пачне ісці па тваёй думцы. Знойдзеш разумныя вырашэнні фінансавых і сямейных праблем. Будзеш спакойны і памяркоўны. Грашыма можаш раскідвацца, пастараўшыся іх зарабіць, каб хапіла. Неканвенцыянальны падыход і незалежнасць думкі памогуць табе ў далейшай кар'еры. 1-3.01. дасканалы час на падарожжы і здаванне экзаменаў.

**(22.05. — 22.06.)** Будзеш перфекцыяністам і знакамітым арганізатарам. Хоць незадобры часта пачатак новых мерапрыемстваў, якія могуць цябе перарасці. Галавой муру не разаб'еш — у сямейных справах; будзь цярплівым. Затое фізічнае ажыўленне. Знойдзеш разумныя вырашэнні фінансавых і сямейных праблем. Будзеш спакойны і памяркоўны. Грашыма можаш шастаць, пастараўшыся іх зарабіць каб хапіла. Неканвенцыянальны падыход і незалежнасць думкі памогуць табе ў далейшай кар'еры.

**(22.06. — 23.07.)** Нервы, неспакой на пачатку тыдня. Дома будзеш талерантным, шчырым, адкрытым. Важнае будзе для цябе эмацыянальнае цяпло тваіх блізкіх і сяброў. Год закончыш без хвастоў і недаробак. У студзені абмінуць цябе праблемы на працы.

**(24.07. — 23.08.)** Могуць ускладніцца твае сільвестравыя планы. Твая працавітасць, абавязковасць і памяркоўнасць будуць узнагароджаны. Дзякуючы цярплівасці і дакладнасці ўсё, што цяпер будуеш, ператрывае найгоршыя буры. У студзені трымайся дысцыпліны, а дасягнеш таго, аб чым марыш.

**(24.08. — 23.09.)** Апошнія дні года вельмі ўдалыя. 29.12. афармляй важныя справы. Пакажаш сваю кемлівасць і інтэлігентнасць. Не будзе для цябе невырашальнай праблемы, а твае задумы будуць цікавыя і арыгінальныя. Куплю новага дома ці перасяленне афармляй як найхутчэй, каб у новы год мець усё завершана. У студзені перастанеш турбавацца справамі, на якія і так не маеш уплыву.

**(24.09. — 23.10.)** Вялікая кампанейская папулярнасць. Рыхтуюцца неспадзеўкі, вяртанне забытых людзей. Ніхто цябе не пераможа — рэалізуй усё, што прыйдзе табе ў галаву! Святы крыху горшыя чым даўней. На справы глянеш інакш, ды няма на што злавацца — варта часам справы паставіць на лязе нажа. У студзені змены на працы ў момант цябе расстрояць.

**(24.10. — 22.11.)** Мусіш шмат спраў перадумаць, таму лепш не займайся тым, у чым не маеш упэўненасці. Сам пераканаеш іншых да ўласнай думкі і схіліш да таго, што слушнае для цябе. Старайся ўсё бачыць у адпаведнай перспектыве, рэагуй адпаведна. Гарантуецца ўзнагарода ад Венеры! У студзені амбітна падыдзеш на цяжкіх спраў і не спачнеш, пакуль не дасягнеш сваёй запаветнай мары.

**(23.11. — 22.12.)** Не давай сябе зацягнуць ні запрашаць на «рандэву ў цёмна». 29.12. апрацоўвай свае планы на будучыню. Шчасце і дабрабыт. На Новы год проста цудоўна! Не будзь такі прагны! Ад студзеня адчуеш, што свет належыць да цябе і здзяйсненне мараў — як рукой падаць.

**(23.12. — 20.01.)** 29.12. абавязкова зайграй у лато! Задбай аб сябе. Не шкадуй грошай на касметолага і праверанага цырульніка. У пары прага, жарснасць, вялікія эмоцыі — проста няма чаго з гэтым парадкаваць! Нават напругі між вамі будуць вас да сябе прыцягваць. Кідайся на глыбокую ваду! Лёс ласкавы, шчасце на кожным кроку. Ад студзеня вырашыш праблемы і дасягнеш поспеху большага, чым спадзяешся.

**(21.01. — 19.02.)** Пачуццё гумару, ды прытым страта аб'ектывізму — можаш стаць высмейваць рэчы, на якіх мог бы зарабіць, а прынамсі скарыстаць (ніколі не кажы „ніколі!”). Нечаканыя змены; не трапляй у крайнасці. Аналізуеш сітуацыю, засярод зіўшыся. Не дай, каб у выходныя дні хтосьці папсаваў вам ідылію. У студзені дазволь сабе на адпачынак і шануй свой час.

**(20.02. — 21.03.)** Шмат супярэчнасцей у табе — раз ты не да жыцця, іншы раз — хапаешся за ўладу. Адно давядзе цябе да нудотнасці (крамы!), іншае — захопіць без рэшты. Намяці мэты. У пары апрача пачуцця патрэбны яшчэ лаяльнасць і адказнасць. Ад студзеня зменіш сябе на лепшага, а атачэнне на прыгажэйшае.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714
**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.

**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**

BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 300 egz.

(працяг)

# Стракаты верасень

**15 лістапада ў Варшаўскім універсітэце адбылася 5-я Міжнародная навуковая канферэнцыя, ладжаная Цэнтрам беларускіх штудыяў Універсітэта. Тэма канферэнцыі: „Падзелены/аб'яднаны край: Беларусь і Польшча ў верасні 1939 года". У канферэнцыі прынялі ўдзел вучоныя з абедзвюх названых краін.**

**Ежы Гжыбоўскі** з Варшавы: — У маі 1939 года, калі навісала вайна, група варшаўскіх беларусаў выступіла з дэкларацыяй, дзе выказвала лаяльнасць у адносінах да Рэчы Паспалітай. Вядома, што тыя дэкларацыі не былі шчырыя. У пярэдадні выбуху вайны ў беларускім асяроддзі панавалі крыху іншыя палітычныя настроі. Большасць беларускіх дзеячаў спадзявалася па набліжаючыхся зменах паправы палітычнай сітуацыі беларускага незалежніцкага руху. Беларускія дзеячы ўважліва назіралі за наваколнымі падзеямі, стараліся рэагаваць на акружаючую палітычную рэчаіснасць. А ў Еўропе паўставала новая палітычная і мілітарная магутнасць — Трэці Рэйх. Нямецкая палітыка набірала штораз большага значэння. І з ходам часу настроі беларускіх дзеячаў мяняліся на штораз больш пранямецкія. Іх адхуайляла дзяржава, якая вяшчала лозунгі развалу версальскіх парадкаў. Беларускія дзеячы нягледзячы на іх палітычныя погляды лічылі, што тыя абставіны, якія існавалі напярэдадні выбуху вайны, былі непрымальнымі. Малалікія беларускія дзеячы нагадвалі на ідэалагічнае сваяцтва з Трэцім Рэйхам; не ўсе былі прыхільнікамі ідэалогіі нацсацыялізму. Тут была халодная палітычная калькуляцыя, калі глядзелі на Трэці Рэйх цераз прызму версальскага парадку, ці, дакладней кажучы, версальска-рыжскага, які паслядоўна адкідаў беларускі незалежніцкі лагер. Першымі дзеячамі, якія паклалі надзеі на Берлін, былі дзеячы згуртаваныя вакол Фабіяна Акінчыца. У палове 1930-х гадоў у віленскай газеце „Новы шлях" Акінчыц пісаў: „Шматмільённая армія беспрацоўных у адной толькі Еўропе, жорсткі безнадзейны крызіс разбураючы сусветную гаспадарку, руіна земляробства, бедната, голад і адначасова вялікая роскаш капіталістаў, рост бюракратычнага апарату, маральная гніль і шмат іншых пачварных з'явішчаў даводзяць, што толькі навальніца з перунамі прачысціць той бруд". Гэтай думкі трымаўся таксама Альбін Стэповіч, у той жа газеце ў артыкуле „Нямецкі нацыянальны сацыялізм і беларусы": „Наша беларускае становішча да палітыкі Гітлера павінна быць іншае чымсьці становішча народаў, што маюць уласную дзяржаву. Беларускае становішча гэта становішча народу падбітага, уціснёнага, які ад кожнай змены не мае нічога траціць. А калі не мае чаго траціць, то ад змены можа нешта выйграць". Значыць — горш быць ужо не можа. Таму толькі вайна і змена палітычнага парадку ў Еўропе можа прывесці да палёгкі долі беларусаў. З ходам часу штораз больш беларускіх дзеячаў ставіла на супрацоўніцтва з Трэцім Рэйхам. Да такіх пранямецкіх поглядаў пачалі схіляцца нават такія дзеячы, якія раней не мелі з гэтым нічога супольнага, для прыкладу ксёндз Вінцэнт Гадлеўскі, які раней лічыў, што фашызм з'яўляецца чымсьці на падабенства камунізму. А напярэдадні выбуху Другой сусветнай вайны яго погляды дыяметральна змяніліся. Апошні нумар „Беларускага фронту", рэдагаваны ксяндзом Гадлеўскім, выйшаў у пачатку верасня, калі ўжо выбухнула вайна. У лісце да Васіля Захаркі, старшыні Рады БНР у выгнанні, ксёндз Гадлеўскі пісаў: „Іншага выбару ў сучаснасці я не бачу. Ані Англія, ані якаясь Амерыка беларускай справы на парадак не паставіць. А калі паставіць, то толькі ў рамках або вялікай Польшчы, або вялікай Расіі, каб палохаць Нямеччыну ад усходу. І ў адным, і ў другім выпадку адбудзецца ўсё гэта коштам Беларусі. Тым часам Нямеччына ставіць справу інакш". Так ацэньваліся абставіны, у якіх апынулася Беларусь. Васіль Захарка таксама мусіў выказаць сваё становішча ў адносінах да акружаючай яго рэчаіснасці. Пісаў ён: „Што надуты нямецкі балон мусіць быць спушчаны да палёту, для мяне гэта ясна, бо інакш ён праз некаторы час можа разарвацца на месцы. Але што каму прынясе гэты балон, прадугадаць немагчыма. Думаю аб вялікім паходзе на ўсход. Для беларусаў ці украінцаў павінна быць ясна: горшага, што мы маем на сваіх землях цяпер быць і не можа. Дзеля развалу існуючага статус-кво важна пайсці хоць з самім чортам. Але што чакае нас пасля развалу, ніхто не ведае. Як бы там не было і што б нам не судзіў лёс у будучыні, але цяпер страх перад Нямеччынай, які апанаваў нашых ворагаў, дапамагае нашай справе. Калі Нямеччына захоча, то ўсёроўна пойдзе на ўсход, з намі ці без нас. Нельга зусім адкінуць думкі, каб пры гэтым паходзе што-небудзь здабыць для нашага вызвалення". Зараз можам сказаць, што стаўка на трэці Рэйх была ілюзорнай. Расчараванне было агромнае. Падобнай, дарэчы, думкі трымаліся і іншыя; украінцы, грузіны, армяне, расіяне найбольш выдалі калабарантаў з Трэцім Рэйхам. Усе яны думалі падобна, гэта быў такі дух часу ў агульнаеўрапейскім кантэксце. І, здаецца, што выбар беларускіх дзеячаў у 1939 годзе быў досыць бясспрэчны і здагадвальны.



Ежы Гжыбоўскі

Пранямецкія погляды напярэдадні вайны дамінавалі. Былі беларускія дзеячы, якія супрацоўнічалі на ідэалагічным грунце, як Акінчыц, які лічыў гэтую ідэалогію панацэяй, якая выратуе Еўропу ад гнілой дэмакратыі і ад камунізму. Але большасць складалі тыя, якія не мусілі пакідаць сваіх ідэалагічных дактрын; на Трэці Рэйх быў толькі халодны палітычны разлік. Для прыкладу, латвійскія беларусы апынуліся ў складанай сітуацыі. У жніўні 1940 года Латвія была пазбаўлена незалежнасці і далучана да СССР; і мы маем адразу рэакцыю Беларускага таварыства ў Латвіі, якое піша ліст Сталіну, „да самага дарагога дабрадзея" і просіць узяць пад увагу жменьку беларусаў у Латвіі. А пройдзе дзесяць месяцаў і ў чэрвені 1941 года Латвія была акупавана нямецкімі войскамі і тыя самыя людзі тым самым атрамантам і на той самай паперы пішуць ліст да гаўляйтэра і просяць тое самае, падкрэсліваючы аддана сць новым гаспадарам.

**Лена Глагоўская**: — Мне аднязначна такое акрэсленне, якое існуе па сёння на Беласточчыне, дзе гаворыцца „за тымі палякамі", „за першымі саветамі", „за немцамі", „за другімі саветамі", „за гэтымі палякамі". Гэта, можна сказаць, паказвае суб'ектнасць беларусаў, бо яны ведаюць, што яны заўсёды не ў сябе, хто яны ёсць і адкуль такое акрэсленне. Не „ў Польшчы", а „за палякамі", не „ў Трэцім Рэйху", а „за немцамі", не „ў Савецкім Саюзе" ці „савецкай Беларусі", а „за першымі саветамі" ці „другімі". Аднойчы, мо дзесяць гадоў таму, мае гданьскія студэнты прыехалі ў Ярылаўку маю родную. Адзін са студэнтаў нацягнуў такую майку з вялікім польскім арлом. Сядзіць з маім бацькам на лаўцы пад хатай. І мой бацька кажа: „Знімі гэту майку". А той студэнт кажа: „Ale o co Panu chodzi, przecież w Polsce jestem". А мой бацька кажа: „Ну, сёння ты ў Польшчы, але калі заўтра раніцай устанеш, то невядома дзе гэта будзе. Лепш ты яе здымі".

**Ігар Мельнікаў** з Мінска: — Наогул прапагандуецца такі вобраз уваходу савецкіх войск у верасні 1939 года на тэрыторыю II Рэчы Паспалітай, як мірную аперацыю. У сапраўднасці так не было, на некаторых адрэзках польска-савецкай граніцы адбываліся даволі жорсткія баявыя дзеянні. Пра гэта сведчаць, м.інш. пахаванні, якіх шмат, напрыклад на паўночным адрэзку згаданай мяжы, дзе былі польскія пагранічныя стражніцы. Напрыклад, на Глыбоччыне, каля возера Шо адбылася вялікая бітва.

**Аляксандр Смалянчук** расказаў пра будні на былой польска-савецкай граніцы: — Людзі на памежжы займаліся не толькі кантрабандай ці ўцёкамі на другі бок у пошуках лепшай долі. Улады ладзілі насельніцтву і розныя іншыя цікавінкі. Для прыкладу, у дні савецкіх дзяржаўных святаў школьнікі з савецкага боку хадзілі ўздоўж граніцы і спявалі савецкія песні пра шчаслівае там жыццё. Але толькі тады і менавіта такі голас можна было тады падаваць з савецкага боку. Па-за савецкімі дзяржаўнымі святамі савецкаму народу нельга было не толькі гаварыць са сваімі суседзямі з другога боку дзяржаўнай мяжы, але нават нельга было аглядацца на польскі бок граніцы. Бывала, што жыхары Польшчы падыходзілі блізка да граніцы, гаварылі да калгаснікаў, нядаўніх блізкіх, а савецкім жыхарам нельга было нават адазвацца ў адказ. Наогул жыхароў савецкіх вёсак забіралі савецкія органы пад закідам шпіянажу для Польшчы. Забіралі ў прынцыпе мужчын і тыя ў прынцыпе ўжо не вярталіся. А вядомы таксама выпадак, калі адзін жыхар вёскі з польскага боку граніцы прасядзеў бадай сем гадоў у польскім астрозе засуджаны за шпіянаж для саветаў, а калі ў 1939 годзе ўступілі саветы, таго ж самага чалавека забралі на белыя мядзведзі за шпіянаж для палякаў. Але ў прынцыпе, як вядома з успамінаў жыхароў былога польска-савецкага памежжа, з польскага боку было значна свабодней чым з савецкага. Захаваныя ўспаміны не згадваюць пра вялікую радасць ад „вызвалення" саветамі ад палякаў.


Аляксандр Смалянчук


Уладзімір Лобач

**Уладзімір Лобач** з Полацка: — Грамадскія трансфармацыі, якія ўскалыхнулі беларускімі землямі ў першай чвэрці XX стагоддзя, пакінулі свой адбітак і ва ўласным успрыманні беларускай ідэнтычнасці. Вось, для прыкладу, дзяржаўная польска-савецкая граніца прынесла новыя ідэнтычнасці, у тым ліку ўсходнікаў і заходнікаў. Ды і ў канфесійным плане, і ў плане дзяржаўнай прыналежнасці было даволі разнастайна, дзе людзі не маглі выразна вызначыцца са сваёй ідэнтычнасцю: ні Богу свечка, ні чорту качарэжка.

**Сяргей Токць**: — Складана назваць падзеі верасня 1939 года: ці было гэта вызваленне, ці акупацыя. Бо ж на змену польскаму панаванню прыйшоў таталітарны рэжым, адзін з найбольш жорсткіх у сучаснай гісторыі. Але нельга таксама прамаўчаць той факт, што ў школах уведзена навучанне на беларускай мове. У II Рэчы Паспалітай працэс асіміляцыі беларусаў у польскасць быў даволі прасунуты і ўвядзенне беларускай мовы ў школы трэба ацэньваць станоўча. І ў беларусаў няма адназначнага стаўлення да тых падзей, бо і яны вельмі неадназначныя.


Сяргей Токць

**Аляксандр Смалянчук**: — Увядзенне навучання беларускай мовы ў 1939 годзе не з'явілася нейкім карэнным пераломам у палітыцы партыі, што зараз пачнецца беларусізацыя па ўсёй Беларусі. Гэта быў тактычна-палітычны прыём.

**Ян Ежы Мілеўскі** з Беластока: — Вялікае зацікаўленне верасням 1939 года з'явілася ў Беластоку ў 1989 годзе, калі стала магчымае свабоднае выказванне на тэму сучаснай гісторыі. Беласток заняў асаблівае месца, бо ён у 1939 годзе быў уключаны ў склад СССР, а пасля вайны вярнуўся ў Польшчу. Я пад уражаннем цікавых даследаванняў, праведзеных незалежнымі беларускімі гісторыкамі. Таксама і ў Польшчы Беларускае гістарычнае таварыства займалася гэтай тэмай, тыднёвік „Ніва" выдаў кнігу з успамінамі з таго часу. Важнае, што рэпрэсіі кранулі розныя этнічныя і канфесійныя групы грамадзян польскай дзяржавы. У нас часта пра гэта забываецца, часта гісторыю сузіраецца з нацыянальнага пункту гледжання, але ў сапраўднасці не толькі палякі былі рэпрэсіраваны. Мяркую, што будзем аддаляцца ад канфрантацыйнага разумення гісторыі, гісторыя павінна быць прадстаўлена ў верагодным відзе.

(працяг будзе)

Тэкст і фота
**Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

ISSN 0546-1960 52